


# наша Слова




**ЯК ВЫЖЫЦЬ ЧАЛАВЕЦТВУ?** Стар.2.

**ВЫЗВАЛЕННЕ** Стар.4.

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 48 (312) 28 лістапада — 5 снежня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **24 лістапада ў нашай краіне прайшоў рэферэндум**, але ж далёка не па дзеючай Канстытуцыі...

○ ***Як стала вядома з друку, на 1 лістапада доўг нашай краіны*** *па разліках за газ перавысіў 170 мільёнаў долараў ЗША. Як гаворыцца: у даўгах, як у шаўках.*

○ **Споўнілася 90 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты "Наша ніва"**, якую заснавалі браты Іван і Антон Луцкевічы і Аляксандр Уласаў.

○ **Адноснае зацішша назіраецца апошнім часам на рынку працы Беларусі.** Афіцыйная лічба зарэгістраваных у Дзяржаўнай службе занятасці насельніцтва папоўнілася за кастрычнік нязначна, і на 1 лістапада яна складала 185236 чалавек. Але гэта толькі афіцыйная лічба...

○ **Зараз у насельніцтва нашай краіны на руках ажно 4 віды пашпартоў і дакументаў, што іх замяняюць:** пераважная большасць мае савецкую чырвоную кніжыцу ўзору 1974 года, каля 170 тысяч чалавек з Менска і Менскай вобласці — пашпарт у сіняй вокладцы з гербам "Пагоня", каля 0,5 млн. чалавек — часовую даведку формы № 9; акрамя ўсяго, ёсць уладальнікі замежных пашпартоў былога СССР. Хутка пачнецца выдача новых пашпартоў узору 1996 года. Словам, без дакументаў жыць не будзем.

○ ***У Менску прайшоў міжнародны кінафестываль "Лістапад-96"****, які сабраў зорак айчыннай і замежнай кінематаграфіі. У конкурсе прыняло ўдзел 12 фільмаў з Беларусі, Расіі, Казахстана, Украіны і Грузіі.*

○ **Аршанскі гарадскі аддзел адукацыі і музей "Нашы славутыя земляікі"** аб'явілі конкурс на лепшае сачыненне, прысвечанае памяці Уладзіміра Караткевіча. Для старшакласнікаў гарадскіх сярэдніх школ рэкамендуюцца тэмы: "Орша ў творах У.Караткевіча", "Мой любімы твор" і "Люблю я Оршу вялікай любоўю".

○ ***Колькасць насельніцтва Зямлі да 2025 года павялічыцца да 8,294 мільярда чалавек.*** *Колькі будзе беларусаў — цяжка сказаць. бо апошнім часам прырост насельніцтва нашай краіны істотна скарачаецца і магчыма такое, што памерлых будзе больш, чым народжаных. Такія ж праблемы і ў нашых суседзяў: расіянаў, украінцаў, прыбалтаў.*

○ **Рашэнне аб стварэнні музея гісторыі друку Берасцейшчыны** прынята на нядаўнім пасяджэнні калегіі ўпраўлення па друку мясцовага аблвыканкама. Начальнік упраўлення Георгій Тамашэвіч засведчыў, што першая друкарня на беларускай зямлі была адкрыта менавіта ў Бярэсці ў 1553 годзе. Тут жа надрукаваная і першая кніга.

○ ***Шаноўныя чытачы!*** *Яшчэ ідзе падпіска на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 1997 года. На "Наша слова" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Падпісаўшыся на "НС", вы не толькі будзеце ў курсе спраў нацыянальнага адраджэння, але гэтым вы падтрымаеце беларускамоўныя выданні, якія на сённяшні дзень перажываюць не лепшыя часы свайго існавання.*

# Рэферэндум скончыўся. Беларускія праблемы засталіся

Палітычнае шоў пад назвай "усебеларускі рэферэндум" скончылася. Яго вынікі аналітыкі спрагназавалі папярэдне і не моцна памыліліся. Паводле інфармацыі з Адміністрацыі Прэзідэнта ў рэферэндуме прыняло ўдзел 84% выбаршчыкаў і звыш 70% падтрымала Прэзідэнта.

Як праходзіла галасаванне, паведамілі на прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі, яго першы намеснік Васіль Новікаў і Сяргей Калякін. Так, чамусьці выбарчая актыўнасць раптоўна вырасла... пасля 18 гадзін. Па вобласцях у гэты час прагаласавала ад 20% да 30% грамадзян, а ў Менску — 53%! Выбарчыя бюлетэні друкаваліся пад кантролем прэзідэнцкай адміністрацыі, і іх колькасць больш нікім не ўлічвалася. Кіраўніцтву Вярхоўнага Савета для тлумачэння народу сваёй пазіцыі не было выдзелена ні хвіліны тэлэ- і радыёэфіру, затое ў кожным выпуску "Навінаў" паказвалі ўзор бюлетэня і тлумачылі, што трэба выкрэсліць, калі вы хочаце падтрымаць Прэзідэнта. Фальсіфікацыі былі настолькі жахлівымі, адзначаюць наглядальнікі, што прадстаўнікі ўплывовых міжнародных арганізацый аднаначна заявілі аб сваім непрызнанні вынікаў плебісцыту.

С.Шарэцкі заявіў, што Вярхоўны Савет паводле заканадаўства будзе працягваць сваю работу, нягледзячы на тое, што А.Лукашэнка збіраецца фармаваць свой прадстаўнічы орган. Спікер звярнуўся да беларускіх і замежных журналістаў з заклікам расказаць усяму свету пра гвалт над законам і дэмакратыяй, які адбываецца ў Беларусі, і не дапусціць замацавання ў цэнтры Еўропы дыктатарскага рэжыму. Канстытуцыйны суд намерваўся працягваць разгляд справы аб імпічменце, але пасля "народнага волевыяўлення" само існаванне і ВС, і КС застаецца пад пытаннем. Прэзідэнт ужо заявіў, што рэфармаванне органаў дзяржаўнай улады будзе адбывацца згодна з новай Канстытуцыяй. Але воля Прэзідэнта, выражаная ва ўказах, становіцца найвышэйшым законам для ўсіх грамадзян.

Віктар Ганчар скептычна заявіў журналістам, што перамогу А.Лукашэнка атрымаў у чарговы раз толькі дзякуючы непрынцыповасці і нават здрадніцкай пазіцыі кіраўніцтва ВС. Цяпер усё будзе так, як захоча Прэзідэнт, дадаў ён.

Пытанне "што ж будзе з Радзімай і з намі?" застаецца адкрытым.

**Язэп СІНІЦКІ.**

*Набалелае*

# Дзеці і час

Мне заўсёды балюча назіраць, як пакутуюць дзеці, калі раптоўна, імкліва ўступаюць у сваю супрацьлегласць, мяняюцца абставіны грамадскага жыцця, калі тыя святыні, што тлумачыліся як найвялікшая каштоўнасць дзяржавы, выкідваюцца на сметнік.

Так наша краіна ўступіла ў новую фазу свайго развіцця з 1995 года, калі травеньскі рэферэндум прынёс для маленькага беларуса шмат незразумелага і горкага. Як плакалі малыя, калі з класаў прыбіраліся бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня", як маленькае сэрца пратэставала і абуралася гэтай несправядлівасцю, бо тое дзіця за свае школьныя 4-6 гадоў ведала толькі адзін герб і сцяг і старажытнасць іх, мноства прыгожых легенд пра іх, вывучаных у школе, дадавала пашаны і павагі да родных сімвалаў. Хто вымераў, колькі страціла тады дзіця псіхалагічнага грунту, раўнавагі, колькі не дабярэ ад яго ў будучым дзяржава?! Ці зможа калі-небудзь гэтае малое свята паверыць у іншыя сімвалы?

Такім чынам, знікла свечачка ў свядомасці малога, якая грэла, свяціла і натхняла быць грамадзянінам.

Далей — болей! Наша дзіця адчула, што мова, родная мова, пра якую замілавана распавядалі настаўніцы ў класе, паэт у кнізе, маці дома, на якой гаварылі ўсе настаўнікі і сам дырэктар, пачала чамусьці знікаць, і вось ужо ў раскладзе і аб'явах не ўбачыш знаёмых слоў, дырэктар загаварыў па-расійску і нават мама-настаўніца на пераплынку гаворыць не па-беларуску, ад чаго твар яе і вусны робіцца чужымі і непрыгожымі. І не здагадваецца дзіця, вядома, чаму раптам усё змянілася, але адчувае вялікую няўтульнасць. Ці спрагназаваў хто, колькі з такіх малых вырасце зняверaных, абыякавых да мовы, гісторыі, да людзей?!

Але наймацнейшы гвалт адчула наша малое, калі закруцілася кола з пераводам класа на расійскую мову, калі лічнік і назоўнік стаў числителем і знаменателем, на ўроках вуха чакала і не атрымлівала плыні знаёмых слоў, а толькі вір чужых і незразумелых і нібы ватай затыкалася, калі надыходзіла здранцвенне і разгубленасць, двойкі сыпаліся, як з мяшка, і не хацелася ісці ў школу.

Хто падлічыў глыбіню маральнага калецтва і здзічынства, здзейсненага дзяржавай над безабаронным малым, зрабіўшы з яго звярка ў клетцы, загнанага ў кут?! Ці зможа стаць ён "гармоничной личностью".

Нават я, загартаваны педагог з дваццацігадовым стажам, адчувала душэўнае спусташэнне і бяссілле, слухаючы дырэктара адной з менскіх гімназій. Матэматык, яна катэгарычна не магла паверыць, што пяцікласнікі, прайшоўшы 5 гадоў беларускамоўнай школы, не ўсведамляюць нават, што такое "произведение", і ў той жа час лічыла абсалютна нармальным, калі яна не ведае, што такое "здабытак", і не стараецца ведаць, а ўсяляк сцвярджае і адстойвае тую набіўшую аскоміну думку, што "математика по-белорусски — это ненормально и абсурдно", і адпаведна сваім уяўленням самахоць пераводзіць выкладанне матэматыкі ў "сваёй" беларускай гімназіі ва ўсіх класах на расійскую мову без заяў і бацькоўскіх сходаў. Дома бацькі адразу адчулі вынікі гэтага сілавога дзеяння, калі знізілася паспяховасць па

(Заканчэнне на с.2.)

## У Сакратарыяце ТБМ

Цяперашняе становішча ТБМ — прыпыненне дзейнасці першасных суполак, адсутнасць кантактаў паміж імі і кіраўніцтвам арганізацыі, адсутнасць у Таварыства грашовых сродкаў, адыход ад справаў колішніх актывістаў ТБМ, бяздзейнасць Рады Таварыства, няздольнасць арганізацыі эфектыўна супрацьстаяць уціску на беларушчыну, адсутнасць прадстаўніцтва ТБМ у органах улады, звужэнне кола яго сяброў і прыхільнікаў ды наяўнасць мноства іншых праблем — выклікае непакой як у многіх шараговых сяброў Таварыства, так і ў частцы яго кіраўнікоў. Іхні непакой абгрунтаваны ўжо тым, што пералічаныя праблемы ў Статуце Таварыства пазначаныя як неабходныя ўмовы нармальнага існавання арганізацыі. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову: стан, у якім апынулася Таварыства, выкліканы невыкананнем палажэнняў яго Статута.

12 лістапада адбылося чарговае пасяджэнне Сакратарыята ТБМ. З ініцыятывы часткі сяброў Сакратарыята найбольш увагі на ім было нададзена разгляду пытанняў статутнай дзейнасці Таварыства.

Першай разглядалася фінансавая дзейнасць Таварыства. Як было паведамлена, праверкі фінансавых справаў ТБМ дзяржаўнымі органамі (напрыклад, падатковай інспекцыяй) не адбываліся ад часу заснавання Таварыства. Значныя прэтэнзіі былі выказаныя і да Рэвізійнай камісіі, дзейнасць якой не вызначалася актыўнасцю і закранула выключна справы апошняга часу.

З-за адсутнасці поўных звестак аб фінансавай дзейнасці арганізацыі, а таксама асобаў, якія кіравалі грашовымі справамі раней, было вырашана разгледзець гэтае пытанне на бліжэйшым пасяджэнні Сакратарыята.

Другім з разгляданых пытанняў стаў збор подпісаў пад адозвамі на карысць беларускай вышэйшай школы. Збор подпісаў было вырашана працягнуць да студзеня 1997 года, а вынікі гэтай акцыі вынесці на разгляд Рады ТБМ.

Далей была разгледжаная прапанова аб правядзенні, згодна са Статутам, чарговага з'езда Таварыства беларускай мовы. Было вырашана правесці яго не пазней другой паловы наступнага года.

Апошняй і найбольш надзённай з разгляданых праблем стала пытанне падрыхтоўкі да з'езда ТБМ. Сакратарыятам была прынятая пастанова распачаць у газеце "Наша слова" адкрытую дыскусію аб будучыні ТБМ і зменах у Статуце і структуры арганізацыі, неабходных дзеля яе нармальнага існавання ў новых умовах. Удзел у дыскусіі прапанавана ўзяць усім сябрам і кіраўнікам Таварыства.

Вынікі дыскусіі маюць быць абмеркаваныя і падсумаваныя на пасяджэнні Рады ТБМ, прызначаным на студзень 1997 года.

## Зварот Сакратарыята ТБМ да сяброў арганізацыі

***Напярэдадні пятага з'езда Таварыства беларускай мовы мы заклікаем усіх сяброў ТБМ да ўдзелу ў публічным абмеркаванні стану справаў арганізацыі.***

***Вынікамі гэтай дыскусіі павінна стаць выкрыццё прычынаў стагнацыі дзейнасці Таварыства і вызначэнне зменаў у Статуце, складзе кіраўніцтва, структуры і спосабах дзейнасці ТБМ, неабходных дзеля выканання арганізацыяй яе галоўнай мэты — адраджэння беларушчыны і Беларусі.***

***Меркаванні і прапановы (пажадана індывідуальныя, а не калектыўныя) сяброў ТБМ мусяць дасылацца на адрас рэдакцыі газеты "Наша слова": 220029, Менск, вул. Чычэрына, 1. На канверце рабіце пазнаку АБМЕРКАВАННЕ.***

**Актуальна!**

*Радзім ГАРЭЦКІ,*
*віцэ-прэзідэнт АН Беларусі*

# Чалавецтва выжыве толькі праз культуру і нацыянальную самасвядомасць

Гістарычныя падзеі, агульныя абставіны і жыццёвыя ўмовы ў Беларусі часта складаліся так, што спрыялі эміграцыйным працэсам. Нават яшчэ Францыск Скарына свае першыя выданні (23 кнігі Біблії на старажытнабеларускай мове) надрукаваў не на Радзіме, а ў Празе. Ды і потым зноў эмігрыраваў у Прагу, дзе пражыў амаль 20 гадоў, там і пахаваны. Сімяон Полацкі таксама амаль 20 гадоў пражыў у Маскве, дзе зрабіў вялікі ўклад у расійскую культуру і адукацыю як выдатны грамадскі і царкоўны дзеяч, педагог, пісьменнік і публіцыст.

Забарона афіцыйна карыстацца беларускай мовай спачатку ў Рэчы Паспалітай, а затым у Расійскай імперыі, войны, паўстанні, арышты і высылкі не спрыялі развіццю беларускай культуры. Каля трохсот гадоў беларускі народ жыў пад амаль поўным панаваннем польскай і расійскай культур. Таму лепшыя прадстаўнікі ўраджэнцаў зямлі беларускай і іх продкі нярэдка станавіліся выдатнымі дзеячамі суседзяў. Дастаткова ўспомніць такія імёны, як Фёдар Дастаеўскі і Адам Міцкевіч, Міхаіл Глінка і Станіслаў Манюшка, Мадэст Мусаргскі і Дзмітрый Шастаковіч, Осіп Кавалеўскі і Іосіф Гашкевіч, Мікалай Пржавальскі і Іван Чэрскі і многія-многія іншыя. Некаторыя з нашых суайчыннікаў сталі нацыянальнымі героямі краін свету (Тадэвуш Касцюшка, Ігнат Дамейка). Імёнамі многіх з іх названы гарады і пасёлкі, хрыбты і залівы, іншыя геаграфічныя аб'екты, выкапнёвыя і сучасныя расліны, жывёлы і г.д.

Асабліва вялікія эміграцыі здарыліся ў пачатку нашага стагоддзя, калі з Беларусі з'ехала каля 1 млн. чалавек у далёкае замежжа (галоўным чынам, у ЗША, Еўропу) і столькі ж — у Сібір, а потым тысячы і тысячы ў гады Другой сусветнай вайны і пасля. Калектывізацыя, сталінскія рэпрэсіі, эвакуацыя ў час вайны, "будоўлі камунізму" (БАМ, цаліна і інш.) выклікалі перасяленне больш за 1 мільён беларусаў. У дадатак многія этнічныя беларускія тэрыторыі адышлі да суседніх краін (Беласточчына, Віленшчына, заходнія вобласці Расіі, часткова Чарнігаўская вобласць Украіны). Калі ўлічыць і часовую міграцыю (напрыклад, эвакуацыю ў час вайны многіх жыхароў, у тым ліку творчай інтэлігенцыі), дык у выніку не менш паловы беларусаў пастаянна ці часова аказаліся за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Большасць беларусаў досыць хутка асіміляваліся ў замежных краінах, але ў многіх выпадках яны стварылі моцнае нацыянальна свядомае ядро беларускай эміграцыі.

Сярод іх найбольш вялікія і вядомыя супольнасці склаліся ў ЗША і Канадзе, а таксама ў Празе, Нямеччыне, Англіі, Аргенціне, Аўстраліі і інш. Першыя дзве і да гэтага часу застаюцца найбольш значнымі.

Дзейнасць беларускай эміграцыі здзіўляе шырокай палітрай сваёй культурнай дзейнасці: літаратура, фальклор, часопісы, газеты, музеі, бібліятэкі, тэатр, мастацтва, музыка, выдавецкая справа, харавыя і танцавальныя гурткі, радыёперадачы, шматстайнасць рэлігійнага жыцця і г.д.

Пасля развалу СССР мы змаглі нарэшце больш дасканала пазнаёміцца з набыткамі беларускай культуры ва ўсіх краінах, і тады пачаўся працэс узаемнага ўздзеяння розных частак беларускай культуры — метраполіі і замежжа. І тут хочацца асабліва адзначыць вялікую ролю беларускай дыяспары Амерыкі ў захаванні чысціні беларускай мовы, што рэзка кідаецца ў вочы на фоне разбуральнага працэсу моўнага беларускага асяроддзя ў самой Беларусі. Я ўспамінаю гамонку, якая адбылася больш за два гады таму (чэрвень 1994 г.) у час навуковай канферэнцыі "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні" з Эльжбетай Смулак — польскім пасалом у Беларусі, добрай знаўцай беларускай мовы. Яна мне расказала, што аднойчы да яе ў пасольства зайшла жанчына, якая здзівіла яе прыгожай беларускай гаворкай. Яна спытала: "Адкуль у Вас такая добрая беларуская мова?" Жанчына адказала, што яна некалькі гадоў жыла з мужам у Нью-Йорку і вельмі часта сустракалася з амерыканскімі беларусамі, ад якіх і навучылася так размаўляць па-беларуску. Гэта была Юлія Бураўкіна, жонка паэта Генадзя Бураўкіна.

Калі пра дзейнасць беларусаў на іх этнічных тэрыторыях у Польшчы, Летуве і часткова Латвіі ёсць досыць значныя звесткі, дык пра беларусаў, якія жывуць на этнічных заходніх землях Расіі і часткова Украіны (заходнія часткі Бранскай, Смаленскай, Цвярской, паўднёвая частка Пскоўскай і паўночная Чарнігаўскай), вядома зусім мала. На жаль, шмат хто з іх ужо і не лічаць сябе беларусамі, але ў многіх мясцінах захавалася беларуская мова, а часцей мешаная (расійская з вялікім уплывам беларускай). Жыхары гэтых абласцей у выніку ўжо адзначаных моўных традыцый, фальклору, музычных спеваў і танцаў, мастацкіх вырабаў, побыту, гаспадарчай дзейнасці і іншых асаблівасцяў маюць сваё непаўторнае аблічча. Тут захавалася значная беларускасць, якая зусім мала вывучана. У гэтых мясцінах патрэбна вялікая праца не толькі па вывучэнні, захаванні, але, магчыма, і па адраджэнні беларушчыны.

Хаця ўзаемнае пранікненне здабыткаў культуры замежжа і метраполіі набыло значную моц (абмен кнігамі, часопісамі, газетамі, выданне многіх твораў эмігрантаў на Радзіме, выхад спецыяльных кніг пра дзейнасць эмігрантаў у ЗША, Германіі, абмен мастацкімі выставамі, непасрэдныя сустрэчы на нарадах, канферэнцыях і г.д.), якая, праўда, ідзе галоўным чынам намаганнямі не дзяржавы, а асоб — энтузіястаў, усё ж гэта трэба лічыць толькі пачаткам вялікай справы ўзбагачэння і аб'яднання розных плыняў у адну агульнабеларускую культуру.

Зараз значная колькасць беларускіх суполак і таварыстваў стварылася ў краінах СНД і Балтыі — ад Эстоніі да Якуціі, ад Комі да Узбекістана. Ідзе актыўная культурна-асветніцкая праца. Узнікаюць пытанні стварэння цэнтраў беларускай культуры, школ у месцах шчыльнага пражывання беларусаў. На жаль, дапамога ў гэтым з боку кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь вельмі слабая. Нават раней дастаткова распрацаваная дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце" цяпер амаль закінута.

Тым не меней, працэс нацыянальнага асэнсавання сябе беларусамі ў свеце працягваецца, і тут важная роля належыць нацыянальнай адукацыі. Гэта яскрава засведчыла адразу пасля Другой сусветнай вайны тое ж адкрыццё часовых беларускіх школ у лагерах перамешчаных асобаў на тэрыторыі Германіі. Толькі праз нацыянальную адукацыю можна захаваць прысутнасць беларусаў у свеце. Таму як у Беларусі, так і ў беларускім замежжы неабходна беларусізацыя ўсёй адукацыйнай сістэмы — ад садкоў да вышэйшай школы.

Хачу таксама падкрэсліць адну важную агульначалавечую праблему, якую можна вырашыць толькі праз адукацыю, навуку, культуру. Зноў жа ў нацыянальным абліччы. У сувязі са страшэннай дэградацыяй навакольнага асяроддзя (мы на мяжы экалагічнай катастрофы), выбухападобным прыростам колькасці насельніцтва ў свеце, вялікім сацыяльным расслаеннем жыхароў розных краін і іншымі адмоўнымі з'явамі чалавецтва набліжаецца да татальнага самазнішчэння. Каб пазбегнуць гэтага, патрэбна новая парадыгма развіцця цывілізацыі — канцэпцыя выжывання. Гэта выклікае неабходнасць гуманізацыі і экалагізацыі выхаваўчых і адукацыйных працэсаў на ўсіх узроўнях. Што зноў-такі патрабуе развіцця як еднасці чалавецтва, так і нацыянальнай самасвядомасці.

**Але!**

# Моўная палітыка: ідзём да нуля?

Калі Прэзідэнт Лукашэнка адказваў на пытанні ў Вярхоўным Савеце ў час падрыхтоўлення сваёй Канстытуцыі, дык заявіў, што на Беларусі 40% беларускамоўных школ. Мякка кажучы, гэта не зусім праўда. Прэзідэнт жа, відаць, дакладна ведае, якая колькасць вучняў у вясковых (беларускамоўных) і гарадскіх (пераважна расійскамоўных) школах. Па звестках Міністэрства адукацыі і навукі, у першых беларускамоўных класах цяпер вучыцца прыблізна палова ад таго, што было залетась, да сумнавядомага травеньскага рэферэндуму. Дарэчы, у свой час Віцебская гарадская Рада ТБМ накіравала Прэзідэнту Лукашэнку адкрыты ліст, дзе звяртала ўвагу на абсурднасць антыбеларускай пазіцыі вышэйшай асобы ў моўным пытанні. Падобныя звароты рабіліся шматлікімі іншымі арганізацыямі, дзеячамі культуры і проста сумленнымі людзьмі-патрыётамі. Але хутка высветлілася, што ўсё гэта як аб сценку гарохам і зноў усенароднаабраны кажа публічна: "А что плохого, скажите, в том, что мы провели референдум и каждый может говорить как хочет?". Так, цяпер, як і раней, "кто как хатит, тот так и гаварыт". А як быць з фактам разбурэння нацыянальнай адукацыі, на якой трымаецца духоўная моц любой дзяржавы!?

Зараз на Беларусі колькасць вучняў, што вучацца па-беларуску, хутка набліжаецца да іх колькасці ў 1990 годзе, калі быў прыняты Закон аб мовах. У 1988—89 навучальным годзе па-беларуску навучалася 20,6% усіх вучняў на Беларусі.

У Віцебску прэзідэнцкая палітыка ў галіне нацыянальнай адукацыі можа быць добра праілюстравана графікам, на якім адлік вядзецца ад года прыходу спадара Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта. Калі ў 1994—95 навучальным годзе ў Віцебску было каля 40 першых беларускамоўных класаў у палове гарадскіх школ, дык у мінулым — усяго пяць у чатырох школах, а ў гэтым годзе — толькі тры класы ў дзвюх школах. Усяго школаў 47.

Летась у чацвёртых беларускамоўных класах вучылася 692 вучні. Амаль усе яны павінны былі вучыцца па-беларуску ў пятых класах. Але сёлета ў пятых беларускамоўных класах вучыцца толькі 279 вучняў. Астатніх пасля чатырох гадоў навучання па-беларуску прымусілі перайсці ў расійскамоўныя класы. Кіраўніцтва гарадской адукацыі сцвярджае, што яно праводзіць дзяржаўную палітыку. Тады — якой дзяржавы? Бо палітыка гэта зусім не беларуская.

Прэзідэнт пасля паездкі ў Францыю часта спасылаўся на французскі вопыт, асабліва ў галіне заканадаўства. Тады трэба пераймаць французскі вопыт і ў галіне моўнай!

З лічбаў на графіках бачна, як шпарка адукацыя на нацыянальнай мове рухаецца да "нулявога варыянта", як паслядоўна і мэтанакіравана нас вяртаюць да стану брэжнеўскага "савецкага народа" з адзінай расійскай мовай — так працэй інтэгравацца (суміравацца, аб'ядноўвацца ў адзінае суцэльнае) з Расіяй. На гэтым фоне нават дзіўна чуць у прэзідэнцкіх прамовах аб нейкім суверэнітэце, нацыянальнай культуры (без нацыянальнай мовы) — узгадванне пра гэта проста здзек з здаровага сэнсу нармальных людзей. Гэта ўжо нават і камуністы ў Беларусі пачынаюць разумець.




**А — колькасць усіх беларускамоўных вучняў.**
**Б — колькасць вучняў у першых беларускамоўных класах.**

**В.АРЛОЎ, старшыня гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

**Набалелае**

# Дзеці і час

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

гэтым прадмеце, а ў мове дзяцей стала пасяліліся "трасянка". Мы ўсе з жахам адчуваем, што гэтая эрзацмова мае цяпер дзяржаўную падтрымку, амаль кожны куточак нашага жыцця афіцыйна падтрымлівае, развівае і прапагандуе яе. Гэта можна бачыць і чуць у сродках масавай інфармацыі, дзе можна быць добрым журналістам ці вядучым і абсалютна не валодаць арфаэпічнымі і лексічнымі нормамі беларускай мовы, бачыць у візуальным афармленні нашых вуліц і магазінаў, дзе з'яўляюцца наватворы накшталт "аб'мен, тарговая лаўка, хазяйственные тавары, падсолнечное масла" і інш., чуць дома, калі мама і тата ўпэўнены, што яны гавораць па-расійску. Усё гэта прыводзіць да жахлівага выніку, і грамадства вельмі натуральна ўспрымае трасянку і вельмі насцярожана ставіцца да чыстай літаратурнай мовы. Адзін расіец, які "пренебрегает" беларускай мовай, доўга пераконваў мяне, што гаварыць па-беларуску — непрыстойна, смешна, "ухо режет", а вось трасянкавую мову сваіх суседзяў успрымаў як належнае. У якую кнігу запісваць прыклады такога кшталту?!

Нашы дзеці ў цяперашні час сустрэліся яшчэ з адной жыццёвай жахлівасцю. Яны знаёмяцца ў школе з творчасцю нашых паэтаў, пісьменнікаў і ўспрымаюць імя Н.Гілевіча з вялікай пашанай і павагай, а яго літаратурнае слова, яго грамадзянскую пазіцыю — як прыклад. І раптам чуе наша дзіця з вуснаў высокай дзяржаўнай асобы, што "все эти гилевичи" хочуць зрабіць зусім кепскае жыццё для людзей. Шасцікласнік, прачытаўшы ў падручніку вядомы верш Н.Гілевіча "Край мой беларускі, край!", адчуўшы вялікую любоў да роднай зямлі і людзей, не можа ўсвядоміць, як гэта такое можа быць. І ўзнікае пытанне: каму верыць? Ці прааналізуюць калі-небудзь псіхолагі, адкуль гэтае татальнае нявер'е ў душах нашых людзей і колькі яшчэ будзе працягвацца гэтае насланнё?! Як можа выхоўваць у сённяшніх умовах тое дзіцянё з яго неўнармаванай псіхалагічнай структурай, калі на яго звальваюцца ў дадатак да ўсяго, аб чым гаварылася вышэй, яшчэ і водгаласкі той барацьбы ў вышэйшых калідорах улады за ўладу, калі сродкі масавай інфармацыі культывуюць нервічнасць, паведамляючы, што "чэсных" людзей акружаюць ворагі, адшчапенцы і здраднікі, якія хлусяць народу і хочуць вайны.

Бываючы за мяжой як сябра дзіцячага фонду "Сакавік" з групай хворых беларускіх дзяцей, я назіраю, як пакутуюць нашы дзеці ад нашай эканамічнай, культурнай, сацыяльнай адсталасці, як ім няёмка ў стасунках з заходнімі равеснікамі, як яны хацелі б быць такімі, як яны любілі іхнюю ўладкаванасць і стабільнасць. Дома ж, вярнуўшыся, акрамя ўсіх "выгод" паследкаў сацыялістычнага ладу жыцця, дзіця адчувае недавер і нелюбоў, што ліецца з усіх сродкаў інфармацыі, да людзей заходніх краін, і нават мама прамаўляе ўсвядомленае падкоркай: "Запад нас не ждёт, Западу мы не нужны". Пачула б яе тая сардэчная і клапатлівая англічанка Ліндзі, што месяц карміла і даглядала яе дзіця... І як дзіцятку захаваць сябе, разрываючыся ад такой супярэчнасці.

Псіхічны стан нашага падрастаючага пакалення турбуе псіхолагаў, апошнім часам у прэсе з'яўляюцца артыкулы, прысвечаныя гэтай важнай праблеме. Хацелася б, каб і ўлады ацанілі крызісны стан гэтага аспекту нашага жыцця, каб зразумелі, што сённяшні выбраны накірунак — гэта шлях у яшчэ большае духоўнае бяздонне, што ўсе мы беларусы і нам дзяліць няма чаго, што гэтай зямлі мы аддалі нашых продкаў, і душы іх загадваюць нам працаваць на той час, калі спыніцца гэты гвалт над свядомасцю маленькага беларуса, калі не трэба будзе асобным цікаўным тлумачыць, чаму ты гаворыш па-беларуску, калі кожны будзе дбаць пра інтарэсы сваёй, а не чужой дзяржавы.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ, арганізатар ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# Пайшоў з жыцця поўны задум

**6 лістапада 1996 года памёр доктар філалагічных навук, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Леў Міхайлавіч Шакун. Перастала біцца сэрца чалавека, які ўвасабляў сабой цэлую эпоху ў гісторыі беларускага мовазнаўства.**

Леў Шакун нарадзіўся 14 верасня 1926 года ў вёсцы Браткава на Капыльшчыне. Ён быў студэнтам філалагічнага факультэта першага пасляваеннага набору, скончыў аспірантуру і ў 1953 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Час, у які ўваходзіў у навуку малады даследчык, не надта спрыяў росквіту беларускай мовы, аднак ужо ў тую пару Леў Шакун застаўся ў памяці сваіх калег і студэнтаў як чалавек, які бязмерна і аддана любіў родную мову, як эталон інтэлігентнасці і культурнасці. Замілаванасць роднай мовай падштурхнула яго да напісання кніг па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Выдадзеныя напачатку 60-х гадоў "Нарысы гісторыі беларускай літаратурнай мовы" і "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" заклалі трывалы грунт для далейшага развіцця адпаведнай лінгвістычнай галіны і стварылі магчымасць для плённага ўзгадавання маладых пакаленняў філолагаў і журналістаў.

Вернасць абранаму ў маладыя гады напрамку Леў Міхайлавіч пранёс праз усё сваё жыццё. Сярод яго прац 60—80-х гадоў шырокую вядомасць атрымалі наступныя: "Утварэнне беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы", "Да пытання аб панямцкі "Старажытная беларуская літаратурная мова", "Ф.Скарына і пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы", "Да пытання аб узаемадзеянні беларускай літаратурнай мовы і дыялектаў у савецкую эпоху", "Роля Б.Тарашкевіча ў развіцці беларускай літаратурнай мовы", "Да характарыстыкі функцыянальных стыляў беларускай літаратурнай мовы" і многія іншыя. Ужо на раннім этапе сваёй дзейнасці Леў Шакун стаў цікавіцца гісторыяй беларускай лінгвістыкі, і гэты доўгагадовы інтарэс прывёў у выніку да напісання першай поўнай "Гісторыі беларускага мовазнаўства". У 70-я гады Леў Міхайлавіч падрыхтаваў таксама шэраг прац з галіны словаўтварэння.

Усё доўгае працоўнае жыццё Льва Шакуна было звязанае з філалагічным факультэтам БДУ, больш чым чвэрць стагоддзя ён кіраваў кафедрай беларускай мовы. Студэнты і аспіранты памятаюць ягоную нязменна кваліфікаваную дапамогу, заўсёдную гатоўнасць падтрымаць перспектыўныя напрамкі даследавання. На пачатку 80-х гадоў я, студэнт філфака, шукаў сабе навуковую тэму, якая нейкім чынам была б звязаная з выяўленнем нацыянальнай самабытнасці беларускай мовы. Як я цяпер разумею, напісаць працу такога тыпу і абараніць яе ў рамках фармальных структур тагачаснага мовазнаўства ў тыя гады было праблематычна. Марнасць маіх намаганняў добра разумеў Леў Міхайлавіч, аднак ён не параіў змяніць тэму, а даў дзесяткі з два бібліяграфічных картак са сваёй грунтоўнай картатэкі, якія ўявілі мяне ў свет лінгвістычна-палітычнай барацьбы 20-30-х гадоў. Урэшце, я сам зразумеў, што цікавая мне праблематыка з'яўляецца забароненай, табуяванай, і адмовіўся ад свайго намеру. Аднак веды, здабытыя дзякуючы дапамозе старэйшага калегі, спатрэбіліся мне ў будучыні.

З разуменнем Леў Міхайлавіч успрыняў змены ў грамадскім і палітычным жыцці апошняга дзесяцігоддзя. У сваёй "Гісторыі беларускага мовазнаўства" ён справядліва, але, бадай, залішне самакрытычна зазначыў, што яго ўласным дапаможнікам па гісторыі беларускай літаратурнай мовы ўласціва асвятленне многіх кардынальных праблем "у духу панаваўшых на той час ідэалагічных установак". Навуковец напісаў, што ў сучасных умовах патрабуецца перагляд многіх устарэлых уяўленняў пра шматвяковую гісторыю беларускай літаратурнай мовы. Нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, Леў Шакун у апошнія гады зусім не спыніўся ў сваім развіцці, ён актыўна запаўняў "пусткі", што ўтварыліся ў беларускім мовазнаўстве. Так, яшчэ з 1988 годзе ў адным са сваіх артыкулаў ён, знаўца гісторыі мовы, пісаў, што рэформа 1933 года азначала "**круты паварот**" у развіцці беларускай мовы, што ўсе змены, унесеныя дэкрэтам СНК, былі зробленыя дзеля максімальнага збліжэння беларускай мовы з расійскай. У 1992 годзе Леў Шакун апублікаваў працу пра беларуска-польскія моўныя ўзаемаадносіны, у якой у многім па-новаму асвятліў гэтую, раней "небяспечную", тэму. Тады ж ён напісаў незвычайны для пераважна "прыземленай", "нефіласофскай" беларускай лінгвістыкі артыкул "Мова як фактар нацыянальнай самасвядомасці народа". Выключную цікавасць уяўляе сціплая па памерах, але багатая на думкі праца "Усходнія" і "заходнія" крыніцы папаўнення лексічных сродкаў беларускай мовы" (1995). У ёй Леў Міхайлавіч ахарактарызаваў узровень русіфікацыі беларускай мовы (на яго думку, пазычанне русізмаў у нядаўнія гады набыло "неабмежаваныя памеры") і дакладна кваліфікаваў зрухі паміж "усходнім" і "заходнім" вектарамі развіцця беларускай мовы, што адбываюцца ў наш час. У самым апошнім сваім апублікаваным артыкуле (часопіс "Роднае слова", № 9, 1996) Леў Шакун па-новаму асэнсоўвае паходжанне нашай мовы.

Леў Міхайлавіч пайшоў з жыцця поўны задум. Памяць пра яго навечна захаваецца ў сэрцах вучняў і таварышаў.

**Сяргей ЗАПРУДСКІ.**

# Памяці Л.М.ШАКУНА



*Не вернецца воін,*
*вандроўнік не вернецца,*
*вернецца свсйбіт...*
*Заўсёды вяртаецца сейбіт.*

**Алесь Разанаў.**

Невымоўная журба працінае душу — памёр Леў Міхайлавіч Шакун. Нядаўна ўсе разам мы ўрачыста і сардэчна адсвяткавалі яго 70-годдзе. Сказана было шмат пранікнёных, добрых слоў, якія юбіляр сустракаў сціплай светлай усмешкай і мяккім гумарам, удзячным позіркам і заўсёдным, вызначальным у яго асобе высакародствам. Бяда навалілася нечакана, усхвалявала ўсіх сваёй непапраўнай несправядлівасцю, бо Леў Міхайлавіч увасабляў само жыццё, дабро і душэўнасць.

Настойлівасцю і талентам Леў Міхайлавіч стаў адным з самых адукаваных лінгвістаў, набыў аўтарытэт у свеце, за даследчую дзейнасць узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Ён з гонарам і ўласцівай яму сузіральнай мудрасцю, сведчыў сусветнай грамадскасці пра вышыню і арыгінальнасць беларускага мовазнаўства. Грунтоўнасць і пастаянны навуковы пошук дазволілі беларускаму лінгвісту стварыць бездакорную навуковую канцэпцыю моўнага развіцця, што знайшла адлюстраванне ў яго фундаментальных працах "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" і "Гісторыя беларускага мовазнаўства". Дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі акадэмік А.І.Падлужны падкрэсліў, што побач з Львом Міхайлавічам, якога называе сваім настаўнікам, навукоўцы пачувалі сябе ўпэўненымі, ды і думкі ў іх нараджаліся больш глыбокія. А прафесар У.М.Лазоўскі нагадаў факт, які красамоўна сведчыць пра вартасць лінгвіста: Леў Міхайлавіч, які толькі прыехаў і не меў асаблівага часу на падрыхтоўку, выступіў з выдатнай лекцыяй у Берлінскім універсітэце імя Гумбальта — на нямецкай мове, гадзіну трымаючы ўвагу слухачоў.

Патрабавальны да сябе, ён патрабаваў і ад іншых; адказны і дакладны ў справах, ён такія ж якасці хацеў бачыць і ў сваіх вучнях. Пра гэта казала загадчыца кафедры методыкі беларускай мовы і літаратуры філфака БДУ дацэнт З.Б.Варановіч. Дадамо, што выхаванне Льва Міхайлавіча мела форму добразычлівай парады, абдуманай, узважанай, вытрыманай заўвагі, залікаўленага абмеркавання на роўных самых розных мовазнаўчых праблем. Яго кансультацыі былі настолькі канцэптуальна цэласныя, канцэнтравалі столькі праблемных аспектаў, акрэслівалі такія розныя шляхі, спосабы, сродкі даследчыцкай дзейнасці, што па праву павінны называцца навуковай працай, на жаль, не занатаванай аўтарам пісьмова. Яна ствaралася і для аднаго вучня, напрыклад, аспіранта, каб потым стаць трывалым падмуркам яго кандыдацкай дысертацыі, натхніць на ўласныя вышукі.

Адточваючы лагічнасць ды пераканаўчасць навуковага досведу ў сваіх вучняў, Леў Міхайлавіч выхоўваў з іх чуйных стылістаў, дапамагаў раскрыць у сабе здольнасць разумець і адчуваць мову, усведамляць яе глыбіню ды шматграннасць, умець знайсці сваёй думцы прыдатную форму.

Творы Льва Міхайлавіча аб'ектыўна адлюстроўваюць асобу свайго стваральніка — сур'ёзнага, адказнага, кампетэнтнага і бескарыслівага ЧАЛАВЕКА. Пра гэта гавораць рэдактарская праца ва універсітэцкім навуковым часопісе "Веснік БДУ. Серыя IV", усе артыкулы якога ўважліва прачытаны і адрэдагаваны прафесарам Л.М.Шакуном. Гэта пацвярджаюць усе буйныя энцыклапедычныя выданні, кансультантам ці членам рэдкалегіі якіх быў Леў Міхайлавіч. Прыгадаем з іх энцыклапедыю "Беларуская мова" (1994). Цяплом душы гэтага чалавека сагрэтыя многія людзі, ім лёс даў шчасце на сваім жыццёвым шляху сустрэцца з Л.М.Шакуном. Пра гэта казалі старшыня Менскага абласнога Савета ветэранаў вайны і партызанскага руху К.І.Дамарад, прарэктар БДУ П.І.Брыгадзін, прафесар В.П.Красней, намеснік дэкана БДУ дацэнт М.Р.Прыгодзіч, аспірантка А.Шагун, так скажа кожны, хто ведаў Льва Міхайлавіча. Дэкан філфака прафесар Л.А.Мурына ўпэўнена, што ён, гадаванец універсітэта, увасабляе яго духоўную і навуковую моц, яго гісторыю.

Усё жыццё побач з Львом Міхайлавічам была яго жонка, Алена Піліпаўна, яна радавалася яго перамогам, набліжаючы іх сваёй спагадай і любоўю. Яна дзяліла з мужам нягоды, падтрымлівала яго нетаймоўную прагу да навукі. Разам яны выгадавалі цудоўнага сына Міхаіла, у гэтым годзе павялі ў першы клас беларускай школы сваю ўнучку Томачку. Дзядулеву дабрыню і пяшчоту дзяўчынка запомніць на ўсё жыццё.

Мы выказваем глыбокія спачуванні сям'і Льва Міхайлавіча, яго родным. Гора іх невымернае. Невымерная і наша пашана. Як сказала вучаніца знанага мовазнаўцы дацэнт Л.І.Сямешка, душа Льва Міхайлавіча, чыстая і нятленная, засталася з намі. На нас легла вялікая адказнасць працягваць на зямлі шлях Настаўніка, узнімацца на тую вяршыню, дзе крыляла натхненне Вучонага, быць вартымі яго, рупнага сейбіта нашай культуры.

**Вікторыя ЛЯШУК.**

*Працягваючы тэму*

# Хто ж абароніць Леаніда Валуя ды яго нацыянальныя ідэалы?

Як было паабяцана чытачам "Нашага слова", рэдакцыя штотыднёвіка працягвае адсочваць тую абстаноўку, якая складваецца вакол умоў жыцця вольнага селяніна з в.Выгар Лагойскага раёна Леаніда Валуя і яго ных спробаў абараніць свой бел-чырвона-белы сцяг, што ён на спецыяльным сцягштоку кожнае раніцы ўздымае па-над уласнай хатай.

Нагадаю чытачам, "Наша слова" ўжо двойчы прысвячала матэрыялы гэтай абароне ў газеце. У сёлетніх 38-м і 41-м нумарах друкаваліся мае рэпартажы "Яго асабісты сцяг" ды "Леанід Валуй з Выгара, які адстойвае свой сцяг".

Першы раз, у ліпені, палотнішча сарвалі міліцыянты — намеснік начальніка Лагойскага РАУС С.В.Вільтоўскі разам з участковым інспектарам В.С.Собалем. Тады, 5 жніўня г.г., на скаргу Леаніда Пятровіча пра ўчыненае пракурор згаданага раёна, саветнік юстыцыі А.Н.Лысенка адпісаў аўтару заявы, апраўдваючы ахоўнікаў парадку:

"...Дзеянні вышэйпазначаных асобаў законныя, бо ўсенародным рэферэндумам 14.05.95 г. прынята новая дзяржаўная сімволіка, якая адмяніла раней існуючую. Дзеючым заканадаўствам забаронена карыстанне ў грамадскіх месцах сцягамі ды вымпеламі, незарэгістраванымі ва ўсталяваным парадку."

Чаму спадар А.Н.Лысенка, які абзацам раней засведчыў, што С.В.Вільтоўскі і В.С.Собаль "знялі сцяг, вісеўшы на сцягштоку на тэрыторыі Вашага двара", пераўтварыў двор Леаніда Валуя ў грамадскае месца абзацам наступным?

На гэта пытанне шаноўны пракурор не адказвае. Затое, перафразуючы вядомую прымаўку, з чытання ўказанага дакумента напрошваецца высноа: калі нельга парушаць Канстытуцыю краіны і аанаўскую Дэкларацыю аб правах Чалавека, але паводле рэферэндуму такое трэба зрабіць, то падобнае ўчыняць можна і нават не несці аніякай адказнасці за ўчынак.

Гэта, мусіць, недзе ў германіях, французах і амерыках Канстытуцыя, Правы Чалавека — рэч недатыкальная. Асабліва, калі гаворка ідзе накoнт права грамадзяніна мець тыя ці іншыя палітычныя перакананні ды на іхнае волевыяўленне. Асабліва, калі ўлюбёны Вамі сцяг, звязаны з гісторыяй народа, краіны, Вы вывешваеце на ўласным доме, балконе дома, уздымаеце на сцягштоку, усталяваным на Вашым двары.

Скажыце, хто і калі адымаў чырвоныя або чырвона-зялёныя сцягі ў камуністаў, калі чатыры гады бел-чырвона-белы меўся за дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь?

Наадварот, уладныя чыноўнікі пад час шматлікіх святаў стараліся не паказваць гістарычную сімволіку, што мела дзяржаўны статус, прыніжалі яе дзе можна і як можна.

Але вернемся да Леаніда Валуя і сённяшняй рэчаіснасці.

Дык вось, 16 жніўня 1996 г. адміністрацыйная камісія пры Лагойскім райвыканкаме разглядае пратакол, складзены памянёнымі спадарамі Вільтоўскім і Собалем наконт зняцця бел-чырвона-белага сцяга са сцягштока на панадворку Леаніда Валуя, ды выносіць вольнаму селяніну, сябру БНФ "Адраджэньне" і прыхільніку ТБМ імя Ф.Скарыны папярэджанне за "незаконнае карыстанне сцягамі" ў адпаведнасці з артыкулам 167[2] Кодэкса БССР аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Я бачыў гэты дакумент. Ён аформлены неахайна. І што цікава, нават не згадваецца прозвішча кіраўніка адміністрацыйнай камісіі.

Магчыма, чыноўніку было нязёмка згадаць сябе пад напісаным? А раптам гадоў праз дзесяць такі вось дакумент перашкодзіць кар'еры?

Не атрымаў падтрымкі Леанід Валуй у сваіх прэтэнзіях да лагойскай міліцыі і ад Менскай абласной пракуратуры.

Намеснік пракурора В.А.Сіраш быў хітрэйшы, чым яго ныя падначалены з Лагойска. Ён ужо не дапускае прымітыўных тлумачэнняў факту зняцця ахоўнікамі правапарадку, блытаючы "тэрыторыю Вашага двара" і "грамадскія месцы". Спадар Сіраш мае сваё тлумачэнне:

"...У сувязі з тым, што раней дзеючае заканадаўства, якое рэгулявала дзяржаўную сімволіку, адменена, учынкі супрацоўнікаў міліцыі па зняцці бел-чырвона-белага сцяга сцяга закону не супярэчаць".

Нават не згадваецца, між іншым, і травеньскі плебісцыт мінулага года.

І тым не меней, адчуваецца, што В.А.Сіраш выдатна разумее, што калі трэба выбіраць між вынікамі рэферэндуму і правамі Чалавека, то неабходна браць на ўвагу міжнародныя нормы, пад якімі значыцца подпіс прадстаўніка Беларусі. Але сёння падобны выбар надзвычай небяспечны для любога чыноўніка. У тым ліку і для аднаго з кіраўнікоў пракуратуры сталічнай вобласці.

Вось і даводзіцца тым, хто закліканы адстойваць законныя інтарэсы грамадзянаў, заплюшчваць вочы дзеля захавання ўласнага здароўя і службовага крэсла.

Інакш, напрыклад, вельмі цяжка расцаніць той факт, чаму Лагойскі раённы суд вось ужо тры месяцы цягне з разглядам заявы, якую падаў Леанід Валуй на дзеянні міліцыі. Праўда, як канстатуе сыскоў, абяцае вельмі хутка разглядзець.

І ўжо ўпаўне лагічнымі падаюцца паводзіны Лагойскага РАУС, куды звярнуўся Леанід Валуй, калі ў пачатку верасня на яго самога і на ягоны сцяг быў учынены разбойны напад аднаго з родзічаў Л.Валуя ў купцы з яшчэ двума хаўруснікамі. У той бойцы нападнікі дзейнічалі ломам, а Леанід Пятровіч абараняў сцяг з малатком у руках. Была разбітая рама вакна хаты Валуёў. Гаспадар атрымаў пабоі, хаця і сам даў крыўдзіцелям "здачы".

Зразумела, што лягчэй самім прыехаць ды зняць на панадворку таго Валуя на "законных" падставах "незаконны" сцяг, чым разбірацца з п'янаватымі механізатарамі, якія зрабілі тое самае, што раней міліцыянты, але яшчэ ў больш вычварнай і агіднай форме.

Вось вынікі травеньскага рэферэндуму: родзіч пайшоў на родзіча вайною!

— Могуць спаліць хату. Могуць наогул забіць. Мне ўжо цераз знаёмых той-сёй з маіх крыўдзіцеляў перадаваў: маўляў, сцеражыся Валуй, мы да цябе дабяромся пасля рэферэндуму,— сказаў мне пад час апошняй сустрэчы Леанід Пятровіч.

Карацей, дажыліся да "грамадзянскай згоды". Дакаціліся. Далей няма куды...

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта,**
**карэспандэнт "Нашага слова".**

*Культурнае жыццё*

## Бібліятэка-музей у Цераблічах

У наш нялёгкі час можна пачуць сумныя звесткі пра закрыццё так неабходных людзям быткамбінатаў і лазняў, бібліятэк і музеяў. А вось у палескай глыбінцы — у вёсцы Цераблічы на Століншчыне на пачатку жніўня адбылася неардынарная падзея: урачыстае адкрыццё унікальнай бібліятэкі-музея. На свята-семінар па краязнаўстве пад дэвізам "Край вытокаў нашай спадчыны" з'ехаліся бібліятэкары раёна, госці з Брэсця. Хлебам-соллю іх сустрэлі мясцовыя жыхары ў нацыянальных касцюмах ды колішнім абрадам нараджэння каравая. Галоўны віноўнік урачыстасці — загадчык Цераблiцкай сельскай бібліятэкі, вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі скульптар-разьбяр па дрэве Супрунчык Іван Піліпавіч — падзяліўся вопытам работы з кнігай, расказаў аб паходжанні назвы вёскі, паведаміў прысутным многія мясцовыя легенды і паданні. Ён падрабязна расказаў аб гісторыі стварэння бібліятэкі-музея, пазнаёміў усіх са шматлікімі сваімі работамі, паказаў экспанаты музея. У прыватнасці, ён паведаміў:

— Думка аб стварэнні бібліятэкі-музея ўзнікла даўно. Сам не сумняваюся ў роднасці гэтых устаноў культуры і хачу ў тым пераканаць некаторых скептыкаў. Затрымка была з-за адсутнасці памяшкання. Ды, як ні дзіўна, на нас спрацавала "перабудова": у цэнтры вёскі вызвалілася дыхтоўнае памяшканне (120 м²) філіяла Пінскай трыкатажнай фабрыкі, і мясцовы калгас "Колас" (старшыня М.Бурда) дружалюбна перадаў яго нам. Знаходжу паразуменне і падтрымку таксама і з боку старшыні выканкама Рамельскага сельскага Савета М.Шпакевіча. Аднавяскоўцы захавалі і перадалі музею шматлікія старадаўнія рэчы хатняга ўжытку і прылады працы: адзенне і абутак (лапці, світкі-намёткі), жорны, ступу, саху, кросны, грэбень-поцязь (1778 г.), лажбень для збору мёду, комін, рыбалоўныя прылады, перапіску са сваякамі і інш.

На ўрачыстасці адкрыцця бібліятэкі-музея прачытаў нізку сваіх новых вершаў студэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта паэт-пачатковец Віталь Адамаў: "Жыві, Беларусь", "Радзіма", "Моства" і інш.

Так, на Палессі сябруюць кнігі з музеем. У добры час!

Толькі не дапусці, Божа, каб беларуская мова і беларуская кніга сталі музейнымі экспанатамі!..

**Леанід РАМАНЕНКА.**
в.Рамель.

*У свеце*

## Бачачы, каго ў Беларусі падтрымлівае Расія, нашы суседзі настойліва просяцца ў НАТО

У Парыжы прайшла Паўночнаатлантычная асамблея (НАТО), удзел у якой узялі больш чым 40 дзяржаў, уключаючы Расію ў якасці назіральніка. Расійскія прадстаўнікі актыўна "назіралі" і за тым, каб іхнія суседзі па былым СССР не "праскочылі" пад крыло НАТО. А прасяцца туды практычна ўсе, асабліва пабачыўшы, каго зараз афіцыйная Масква адкрыта ці дужа прыхавана падтрымлівае ў Беларусі.

У НАТО нарэшце па дапамогу, хаця б маральную, звярнуўся і Прэзідыум Вярхоўнага Савета, які вельмі доўга абіваў парогі ў Маскоўскім Крамлі, спадзеючыся на паразуменне з "вялікім братам". Але ў афіцыйнай Маскве, здаецца, зацікаўленыя ў Беларусі ў якасці паслухмянага сатэліта ды плацдарма для перадавога базіравання расійскіх войскаў і не вельмі хочуць, каб тут палепшылася эканамічнае становішча — бедны сусед хоць больш зайздрослівы, але і больш пакорлівы. Выступаючы ў Парыжы перад журналістамі, як паведамілі міжнародныя сродкі масавай інфармацыі, нават памяркоўны па натуры былы Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Мечыслаў Грыб заклікаў "таварышаў з НАТО" дапамагчы беларускім парламентарыям неяк зацугліць іх няўрымслівага Прэзідэнта, аказаць палітычную і маральную падтрымку парламенту і народу нашай краіны ў барацьбе за дэмакратыю.

У якасці дакумента Паўночнаатлантычнай асамблеі на парыжскай сесіі быў распаўсюджаны Зварот Прэзідыума Вярхоўнага Савета РБ з пратэстам супраць небяспекі захопу ўлады і ўсталявання дыктатуры Прэзідэнтам А.Лукашэнкам. Для тых, хто просіцца ў НАТО, гэта быў яшчэ адзін важкі аргумент, каб гэты працэс дужа не зацягваўся.

**Л.М.**

*У суседзяў*

## Мэру Масквы хочацца паваяваць за Севастопаль

Да гэтага часу мэра Масквы Юрыя Лужкова больш ведалі як добрага гаспадарніка, які здолеў сяк-так наладзіць камунальную службу "паўночнага Вавілона" — мегаполіса. Але з нейкага часу той вырашыў дадаткова заняцца тэрытарыяльнымі справамі Расіі з яе суседзямі. Асабліва яму карціць, што Крым канчаткова становіцца ўкраінскім, як ні стараліся праімперскія сілы ў Расіі арганізаваць там хаця б напачатку моцную аўтаномію. З гэтага амаль нічога не атрымалася. Тады вырашылі "отстоять" Севастопаль, як "истинно российский город на Крымском полуострове" і само сабой — база расійскага Чарнаморскага флоту. Быў нават створаны фінансава багаты фонд "Москва—Севастополь", старшынём апякунскага савета якога стаў Ю.Лужкоў. Адначасова ў гэтай сваёй іпастасі ён пачынае займацца ўзмоцненай прапагандысцкай і публіцыстычнай дзейнасцю: падпісвае разам з групай іншых вялікадзяржаўнікаў падбухторваючыя звароты да расійскай Дзяржаўнай думы, каб тая прыняла адпаведны закон аб юрыдычным далучэнні Севастопаля да Расіі, піша з той жа мэтай артыкулы ў газеты, выступае па радыё і тэлебачанні. Юрый Лужкоў у Расіі чалавек даволі ўплывовы, нездарма мяркуюць, што ён рэальна зможа прэтэндаваць на пасаду прэзідэнта краіны пасля сыходу з арэны Барыса Ельцына, і таму ягоныя "севастопальскія" захады вельмі нават здольныя "разагрэць" да полымя грамадскую думку ў пэўным накірунку ды паўплываць на рашэнні Дзяржаўнай думы, у якой і без таго раздзьмухваць шавіністычнае вогнішча аматараў хапае. Тут звернем увагу на публікацыі Юрыя Лужкова, зробленыя ў вельмі ўплывовай расійскай газеце "Известия". Адна з іх так падбухторваюча і называецца — "Севастополь — российский город на Крымском полуострове". Там Ю.Лужкоў не толькі на эмацыянальным узроўні — "наш", маўляў, і ўсё тут — паспрабаваў даказаць, чаму хаця б Севастопаль, калі не ўвесь Крым, павінен належаць Расіі. Мэр Масквы, крыху паразважаўшы наконт "тэрміналагічнай блытаніны" ў гэтым пытанні, затым паставіў яго рубам, спасылаючыся на гісторыю і галоўнае на тое, што "земля севастопольская буквально полита кровью россиян".

На гэты раз у спрэчку з паважаным маскоўскім мэрам, які такім чынам падбухторвае вельмі небяспечную тэрытарыяльную спрэчку паміж Расіяй і Украінай, умяшалася не ўкраінскае міністэрства замежных спраў, а яшчэ адзін мэр — з Адэсы, ён жа прэзідэнт Міжнароднага чарнаморскага клуба Эдуард Гурвіц. Ён выступіў у "Известиях" і спаслаўся ў першую чаргу таксама на гісторыю, а яшчэ — на юрыдычныя дакументы, якія маскоўскі аўтар альбо не заўважыў, альбо вырашыў праігнараваць. Спасылаючыся на збор дакументаў "Административно-территориальное деление СССР", Э.Гурвіц без цяжкасцяў даказаў, каму што належала яшчэ з 1954 года. А вярнуўшыся да момантаў — хто за што плаціў, хто дзе "кроў праліваў", мэр Адэсы заўважае: "Я, зразумела, не забываюся, што бюджэт РСФСР быў гэтак жа "незалежным", як і бюджэт УССР, і легкадумна не помніць, што агульнасаюзны бюджэт напаўняўся працай і стараннямі ўсіх саюзных рэспублік. І Севастопаль утрымліваўся не Расіяй і Украінай, а Савецкім Саюзам".

Затым мэр Адэсы напамінае пра тое, што яшчэ ў 1990 годзе была падпісана дамова паміж УССР і РСФСР, дзе замацавана прызнанне і павага "тэрытарыяльнай цэласнасці УССР і РСФСР у зараз існуючых рамках СССР і граніцах". Гэтым жа кіраваўся ў ліпені 1993 г. Савет Бяспекі ААН, калі кваліфікаваў як не маючую ніякай юрыдычнай сілы спробу ранейшага расійскага парламента паставіць пад сумнеў дзяржаўную прыналежнасць Севастопаля.

"Украіна радасна сустрэне ўсіх,— піша мэр Адэсы,— хто пажадае ўбачыць яе гарады, рэкі і стэпы, адпачыць у Карпатах ці ў Крыме. Але ў мяне мароз па скуры, калі я чую, што некага да нас кліча "кроў расіянаў", пралітая ці то пад Севастопалем, ці то ў Севастопалі. Калі мы зараз пачнём разбірацца,— працягвае мэр Адэсы,— дзе расіяне, дзе ўкраінцы ці немцы, кітайцы і інш. пабудавалі некалі гарады, а потым пралівалі там кроў, то нам прамы шлях ці ў вар'яцкі дом, ці ў трэцюю сусветную вайну.

У мяне ёсць меркаванне,— заўважае Э.Гурвіц,— што ў нетрах спецслужбаў былога Саюза быў вынашаны зладзейскі план стварэння "гарачых кропак" як спосаб захавання імперыі. Успомніце, як успыхвалі яны адна за адной — у Сярэдняй Азіі, на Каўказе, у Прыднястроўі. Асечка адбылася толькі ў Крыме, хаця і ён доўга стаяў на краі згубнай прорвы. Але, відаць, некаму карціць, іх апошняя стаўка — Севастопаль. Калі ж нехта лічыць,— працягвае мэр Адэсы,— што ва ўсім свеце, так бы мовіць, па праўдзе ўсім раздадзена і засталося толькі Севастопаль "вярнуць", то ён глыбока памыляецца. Тут, дарэчы, варта ўспомніць расійскіх жа гісторыкаў флоту, каб паставіць усе кропкі над "і" ў легендах і міфах пра Севастопаль,— асноўная маса шэраговых будаўнікоў караблёў і шэраговых матросаў легендарнага флоту была... украінскімі прыгоннымі. Як карысна было б зараз пабываць "непримиримым русским" у севастопальскім Музеі Чарнаморскага флоту, які выводзіць свой радавод ад казацкіх "чаек", учытацца ў скупыя радкі біяграфій і матросаў, і афіцэраў з Кіеўскай, Палтаўскай, Вінніцкай і Арлоўскай, Варонежскай, Курскай абласцей, вядомых па геаграфічнаму курсу як Слабадская Украіна. Калі зыходзіць з логікі паважанага Юрыя Лужкова,— з іроніяй заўважае мэр Адэсы,— то маюць рацыю некаторыя гарачыя галовы, украінскія палітыкі-радыкалы, каторыя лічаць Кубань зямлёй украінскай — засвоена запарожскімі казакамі, іх там кроў пралітая, да гэтага часу там "Распрагайце, хлопцы, коней" спяваюць..."

Мэр Адэсы выказвае спадзяванне, што праекты законаў расійскай Дзяржзумы не стануць актамі выканаўчай улады Расійскай Федэрацыі, а тым болей планамі яе Генштаба, што можа дастаткова вопыту Абхазіі і Чачні. Дай то Бог. Але як нам, беларусам, не заўважаць меркаванняў шаноўнага мэра Адэсы наконт стараннняў яшчэ эсэсэраўскіх спецслужбаў па стварэнні доўгатэрміновых "гарачых кропак" дзеля захавання імперыі! А раптам, каб распаліць вогнішча ля ўкраінскай мяжы ўжо з паўночнага боку, спатрэбілася беларуская цяперашняя заварушка? Нездарма ж сітуацыяй у нас вельмі занепакоіліся адразу тры прэзідэнты суседніх краін — Летувы, Польшчы ды Украіны. У гэтых варунках аналітыкі лічаць вельмі падазронай дваістасць рэакцыі вышэйшага кіраўніцтва Расіі, чые спецслужбы, безумоўна ж, актыўна працуюць на беларускай тэрыторыі.

**Ул.Ас.**

# Вызваленне

10 кастрычніка 1794 года каля Мацеёвіцаў сышліся дывізія Касцюшкі і корпус расійскага генерала Ферзена. Першая палавіна бітвы — шэсць гадзінаў паўстанцы адбівалі атакі — прайшла паводле плана Касцюшкі. Мужна кінуўся ў штыкі, калі скончыліся патроны, батальён палкоўніка Крыцкага. Паранены ў правую руку Нямцэвіч, сакратар Касцюшкі, з сваім швадронам заступіў шлях расійскай кавалерыі, якая рынулася ў прарыў, калі завагаліся кракаўскія касінеры. Цуды адвагі і вайсковага ўмельства паказаў на левым флангу брыгадзір Копаць, але, тройчы паранены, быў захоплены ў палон. Расійскія генералы пасылалі ў атакі ўсё новыя і новыя палкі, замяняючы імі змучаных у баі. І паўстанцы чакалі дапамогу: вось-вось меўся надысці генерал Панінські з чатырохтысячнай арміяй. Без гэтага, загадзя ўзгодненага, падмацавання Касцюшка не пачынаў бы бой. Але той прайшоў паўз Мацеёвіцы за мілю ад поля бітвы, хоць і чуў, як выявілася пазней, гарматныя стрэлы.

У палонных Серакоўскага, Князевіча, Копаць, касцюшкавых ад'ютанта Фішара і сакратара Нямцэвіча, якіх трымалі ў Мацеёвіцкім замку, была яшчэ надзея, што Начальніку ўдалося пазбегнуць палону, ды Касцюшка з беларускімі паўстанцамі Ясінскага і Ваўжэцкага зможа давесці паўстанне да перамогі.

Але праз чатыры гадзіны пасля заканчэння бітвы чацвёра казакаў унеслі на піках у залу Тадэвуша Касцюшку. Залітае крывёю цела не падавала прыкметаў жыцця. Ён меў сечаныя раны на галаве, на грудзях, нага была пакалечаная штыком.

Назаўтра палоннага Касцюшку памчалі ў паўночную сталіцу Расіі, абмінаючы ахопленую паўстанцкім пажарам Беларусь, акружным шляхам праз Валынь, Кіеў Чарнігаў, Магілёў. У гэтым горадзе нейкі стары ў кантушы кінуўся да коча, у якім, лежачы, ехаў Касцюшка, але яго адганялі нагайкай.

У даследнікаў ёсць два меркаванні наконт гэтага "падарожжа". Польскі гісторык Фелікс Канечны пісаў, што ўсюды па дарозе Касцюшку паказвалі люду, каб пераканаць, што паўстанне задушанае. А нашыя падаюць, што кіраўніка паўстання везлі таемна, пад чужым прозвішчам, баючыся, каб палонніка не адбілі. 10 снежня Касцюшку прывезлі ў Паўночную сталіцу і памясцілі ў Петрапаўлаўскай крэпасці, разлучыўшы з Нямцэвічам і Фішарам, якіх ён не бачыў да самага вызвалення. Пачалося доўгае і прыкрае следства, якое вёў генеральны пракурор Самойлаў.

Цягам часу адносіны да вязня змяніліся на лепшыя. Касцюшку дазволілі маляваць, выязджаць у горад, прыслалі майстра, які вучыў палонніка такарскай справе, яго нават перасялілі ў палац Арлова. Прычыну такой лагоднасці імператрыцы Кацярыны можна ўбачыць у палітычных сутычках паміж нядаўнімі дзяржавамі-хаўруснікамі, якія раздзялілі Рэч Паспалітую. Асабліва напружанымі праз спрэчкі з-за межаў падзелу сталі адносіны паміж Расіяй і Прусіяй. І Кацярына падумала, што можна будзе выкарыстаць Касцюшку ў змаганні з Прусіяй, якая ўжо рыхтавала пруска-французскі альянс супраць Аўстрыі. А маглі ж павярнуцца і супраць Расіі. Тут трэба згадаць, што расійская імператрыца даўно хаўрусавала з польскімі магнатамі, што яна падтрымала Таргавіцкую канфедэрацыю, адзін з удзельнікаў якой — Ежы Вяльгорскі цяпер стаў кацярыніным прыдворным, што тут жабыў кароль Польшчы Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Ягоны пляменнік князь Юзаф, якому яшчэ зусім нядаўна намерваліся даць кіраўніцтва паўстаннем, пасля таго, як Павел вярнуў усе ягоныя ўладанні і надаў годнасць генерала-лейтэнанта кавалерыі, склаў вернападданніцкую прысягу расійскаму паслу ў Вене.

Неспадзяваная смерць Кацярыны 17 лістапада 1796 года няшмат што змяніла ў адносінах да Касцюшкі, але падзеі прыспешыла. Шаноўнага вязня наведаў імператар Павел, якога суправаджалі сыны, прыдворныя, і гэтая падзея прайшла з вялікай помпай, што павінна было звярнуць увагу перш за ўсё замежных гасцей і дыпламатаў.

Павел даводзіў Касцюшку, што ён заўсёды быў супраць падзелу Рэчы Паспалітай. Як заўважае польскі даследнік Фелікс Канечны, можна цалкам давяраць Паўлу, бо ён, напэўна, хацеў мець пад сваёй уладай усю Рэч Паспалітую. Пра што прасіў ці загадваў імператар свайму славутаму палоннаму, праз маламоўнасць Касцюшкі, якая заўсёды нервавала палякаў, ніхто не даведаўся. Верагодна, вязень выканаў усё, што ад яго патрабаваў Павел. Касцюшка нават прысягнуў, што ніколі не пойдзе супраць Расіі. Гэты вернападданніцкі акт быў настолькі супярэчлівым з агульным уяўленнем пра асобу Касцюшкі, што з'явіліся розныя меркаванні пра абставіны, якія прымусілі кіраўніка паўстання зрабіць такі крок. Просты люд, як гэта выявіў беларускі гісторык Уладзімір Емяльянчык, прыпісаў Касцюшку, блізкаму па духу шляхціцу, сялянскую хітрасць. Апавядалі, калі Касцюшка пакідаў родную зямлю, то ён набраў у чобаты роднай зямлі, і прысягаючы сказаў, што ён прысягае таму, на чыёй зямлі стаіць. Навукоўцы мяркуюць: сваім чынам Касцюшка купіў волю 12 тысячам палонных інсургентаў, што і даў Павел сваім указам ад 10 снежня. Нельга не ўлічваць, што Касцюшка быў маральна зламаны. На гэта заважыў, безумоўна, факт паражэння паўстання 1794 года, прычыну чаго ягоны кіраўнік бачыў у двурушнай палітыцы сваіх польскіх хаўруснікаў, не кажучы ўжо пра здраду караля. Дарэчы, пра ягоную дзейнасць Касцюшка ведаў яшчэ перад паўстаннем. У 1793 годзе ён пісаў: "Усе мы гатовыя выкарыстаць усе сродкі, каб сарваць кайданы, каторыя здрада і падкупнасць каралёў надзелі на нашую нешчаслівую айчыну".

Шмат якія прычыны давалі Касцюшку да маральнай дэпрэсіі. Нельга не выключаць і стану здароўя. Хаця даследнікі схільныя лічыць перабольшанным меркаванне англійскага лекара Рогерсана, які ў Пецярбургу апекаваўся Касцюшкам, ягонае заключэнне, што вязень не валодае левай нагой і пакутуе ад болю галавы ды нявылечаных ранаў, адпавядала рэчаіснасці. Пра гэта сведчаць паводзіны Касцюшкі пасля вызвалення.

Афіцыйнай аўдыенцыі ў імператара Касцюшка не меў, але сустрэч, апроч той першай, тэатралізаванай, калі было абвешчана пра вызваленне з-пад арышту, было, як мяркуюць, яшчэ некалькі. Прыём у імператарскім палацы вымагаў цырымоніі: Касцюшка мусіў зрабіць кніксен, але ён праз сваю скалечаную нагу не мог прыклякнуць. Касцюшку, апранутага ў мундзір амерыканскага генерала, прымалі ў Зімнім прыватна, па-сямейнаму. Імператрыца падаравала госцю такарку, а Касцюшка ёй — табакерку ўласнай работы...

Павел адпускаў Касцюшку на волю не жабраком. Імператар дарыў яму зямлю ў Віцебскай губерні з 1000 "душамі" ды 12000 рублёў. Ужо тады Касцюшка думаў пра вяртанне "дару", таму пажадаў, каб вызначылі і кошт тых "душ", але праз славутую расійскую бюракратычнасць ён гэтых грошай так і не дачакаўся, бо імкнуўся як мага скарэй пакінуць Расію. Ён нават адмовіўся ад прапановы наведвання родных у Сяхновіцах і абраў шлях у Амерыку праз Фінляндыю і Швецыю. 19 снежня 1796 года Касцюшка з Нямцэвічам у суправаджэнні маёра Удома, які абавязаны быў дапільнаваць дамоўленага шляху, пакінуў Пецярбург.

Адразу ж пасля пераезду фінскай мяжы пачаліся трыумфальныя вітанні кіраўніка паўстання 1794 года. Яго сустракалі нібы славутага манарха. 27 студзеня 1797 года Касцюшка, усё яшчэ не верачы ў вызваленне, уехаў у Стакгольм, дзе Удом здаў яго расійскаму паслу ў Швецыі.

І ў шведскай сталіцы кіраўнік паўстання 1794 года быў вітаны шчыра і сардэчна. Але Касцюшка пазбягаў шумных сустрэчаў і нават адмовіўся ад прыёму ў караля Густава IV. Каб пазбегнуць штодзённых візітаў расійскага пасла, Касцюшка вырашыў паехаць у Гётэборг, адкуль караблём паплыў у Англію. І там яго сустракалі з трыумфам.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

# Веруем

## Пераклады святога пісання на беларускую мову

*З 21 па 25 кастрычніка 1996 г. у Свята-Марціне, старажытнай сталіцы Славакіі, праходзіла навуковая канферэнцыя "Пра мову Біблії і пра пераклады Святога Пісання на нацыянальныя мовы". Ад Беларусі ў канферэнцыі прыняла ўдзел кандыдат філалагічных навук, дацэнт А.А.Яскевіч. Вытрымкі з яе паведамлення прапануюцца ўвазе чытачоў.*

Першыя пераклады кніг Біблії з досыць выразнымі элементамі старабеларускай моўнай стыхіі (некалькі дзесяткаў рукапісаў Евангелля і Псалтыры) ствараюцца на землях Вялікага Княства Літоўскага на працягу XI—XV стагоддзяў. Як адзначаюць айчынныя вучоныя, у прыватнасці Максім Гарэцкі ў "Гісторыі беларускай літаратуры", перакладаліся часцей за ўсё старазапаветныя кнігі навучальнага і гістарычнага зместу (кнігі Іова, Данііла, Эсфіры, Руфі, Плач Ераміі, Псалтыр, Песня Песняў, Эклезіяст, Прытчы Саламонавы і інш.) непасрэдна з мовы арыгінала, найчасцей старажытнаяўрэйскай. Даследнікамі (Аванесаў Р.І., Анічэнка У.В., Жураўскі А.І.) заўважана цікавая асаблівасць, што пачатак рукапіснага зборніка бібліятэкі АН Летувы па змесце амаль цалкам супадае з тэкстам кнігі "Руф" у перакладзе Францыска Скарыны.

Адзнакай багатай і плённай філалагічна-культурнай спадчыны кожнага народа з'яўляецца наяўнасць твораў Святога Пісання, перакладзеных на нацыянальную мову. Не выпадкова таму дактарская дысертацыя аднаго з бацькоў сучаснай беларускай лінгвістыкі Яўфімія Фёдаравіча Карскага прысвячалася заходнерасійскім (г.зн. беларускім) перакладам Псалтыры ў XV—XVII ст.ст. і была выдадзеная асобнай кнігай у 1896 годзе Варшаўскім універсітэтам.

Першы рукапісны звод Біблії (1499) з'явіўся на землях некалі яшчэ васальных Вялікаму Княству Літоўскаму ў Ноўгарадзе. Праца над зводам актыўна падтрымлівалася архіепіскапам (тады яшчэ фактычна ўладаром наўгародскай зямлі) Генадзем Ганозавым і мела на мэце барацьбу з ерассю "жыдоўствуючых". У складанні зводу прымалі ўдзел і манахі беларускага паходжання.

Хаця вучонымі неаднойчы ўпаміналася аб паасобных рукапісных кнігах Біблії, распаўсюджаных на Беларусі, якія маглі легчы ў аснову першага старабеларускага перакладу, ажыццёўленага Францыскам Скарынам, па-сапраўднаму святло на асаблівасці такога ўласна беларускага зводу Біблії пачатку XVII стагоддзя пралівaюць архіўныя даследаванні М.В.Нікалаева, А.Аляксеева і С.Дз.Ліхачовай. Іерархамі праваслаўнай царквы пры садзеянні вярхоўных улад ВКЛ (непасрэдна вялікага князя і караля польскага Аляксандра Ягелончыка і яго жонкі Алены) прымаюцца тэрміновыя захады да стварэння ўласнага поўнага зводу Біблії. Праца распачалася ў 1502 г. прадстаўніком вядомай манаскай сям'і Мацеем Дзесятым, усебакова падрыхтаваным багасловам, дасканалым каліграфам і мастаком (ім выкананы "Дзесятаглаў") і была закончаная ў 1514 г. дыяканам мітрапаліта Іосіфа Фёдарам Янушэвічам (Гістарычныя кнігі і "Пяцікніжжа" Маісеева). М.В.Нікалаеў выказаў гіпотэзу і перакана̀ўча аргументаваў яе, што Мацей праз свайго брата Яўфімія, настаяцеля Прадцечанскага манастыра ў Полацку, мог быць знаёмы з Францыскам Скарынам і мог даць у яго карыстанне матэрыялы па беларускім зводзе.

Звод Мацея Дзесятага і лёг у аснову Скарынаўскага перакладу Біблії, ажыццёўленага на працягу 1517—1525 гг., які, па сведчанні аўтара, быў поўным, але многія кнігі Старога Запавету не дайшлі да нас. Францыск Скарына абапіраўся, як ён сцвярджае ў прадмове да кнігі Данііла-прарока на пераклад Феадцыёна (II ст. н.э.), вядомага антычнага перакладчыка Старога Запавету на грэцкую мову. У сваіх прадмовах і казаннях беларускі першадрукар неаднаразова таксама ўпамінае Ераніма Блажэннага (у аўтарскім напісанні "Герасіма-прэсвідера", IV ст.), аўтара перакладу Святога Пісання на лацінскую мову — Вульгаты, які, пасля пэўнага перыяду зверак і ўдакладненняў, быў прызнаны на Трыдэнскім саборы (XVII ст.) каталіцкай царквой кананічным. Традыцыйна сцвярджаецца, што беларускі першадрукар абапіраўся яшчэ і на чэшскую Біблію 1506 г. у Венецыі друкаваную і невядомы пераклад Біблії на польскую мову (так званы Шарашоўскі), створаны для каралевы Сафіі Гальшанскай, чым і вытлумачваецца той факт, што старабеларускі пачатак выразна пераважае ў моўным кангламераце помніка.

Першай поўнай друкаванай славянскай Бібліяй на царкоўнаславянскай мове старабеларускай рэдакцыі стала выдадзеная ў 1581 г. Іванам Фёдаравым як вынік плённай дзейнасці Супрасльска-Заблудаўскага рэлігійна-асветніцкага гуртка знакамітая Астрожская Біблія, у аснову якой быў пакладзены грэцкі пераклад LXX.

У 1696 г. загадам польскага сейма старабеларуская мова была пазбаўлена статуса дзяржаўнай, што і запаволіла (у значнай ступені спыніла) развіццё царкоўнаславянскага пласта старабеларускай літаратурнай мовы, узнікненне новых перакладаў Біблії.

У 1906—1913 гг. назіраецца актывізацыя нацыянальнага жыцця, робяцца першыя захады па перакладзе і выданні Святога Пісання на новай беларускай літаратурнай мове.

Найбольш удалым (непераўзыдзеным і пасёння) перакладам Новага Запавету і Псалмоў на беларускую мову лічыцца праца пастара Лукаша Дзекуць-Малея. Яна вытрымала 3 выданні: I — 1926—1930 гг. у Лодзі; II — у супрацоўніцтве з вядомым беларускім культурным і палітычным дзеячам Антонам Луцкевічам, 1931, Гельсінгфорс; III — 1985 г., Таронта.

Сярод каталіцкіх перакладаў варта адзначыць плённыя знаходкі і экзэгетычны вопыт ксяндзоў Вінцэнта Гадлеўскага і Пятра Татарыновіча.

Этапнымі ў станаўленні нацыянальнай біблейскай перакладчыцкай школы былі пераклады некаторых старазапаветных кніг Янам Пятроўскім і тарантаўскае выданне беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы "Напрастольнае Святое Евангелле" па дабраславенні архіепіскапа Мікалая.

На сённяшні час адным з лепшых поўных перакладаў Біблії, нягледзячы на пэўныя крытычныя заўвагі некаторых даследнікаў у бок аўтара, можна лічыць "Святую Біблію" Янкі Станкевіча. У перакладзе адчуваецца своеасаблівы лексіка-стылістычны падыход аўтара, багатыя традыцыі славянскай школы перакладу царкоўнаславянскай Біблії на нацыянальныя мовы. Экзэгетычны змест ключавых момантаў Святога Пісання з глыбокай дакладнасцю перададзены аўтарам.

У 1995 г. па дабраславенні архіепіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалая ажыццёўлена выданне перакладу "Новага Запавету і Псалтыра" Васілём Сёмухам, дзе тэкст Біблії разглядаецца не толькі з экзэгетычнага, але і ў значнай ступені з мастацка-культуралагічнага боку.

У апошнія дзесяцігоддзі выпрацоўваецца ўдакладненая лінгвістычная канцэпцыя адносна паўнакроўнага фармавання функцыянальна-стылявой сістэмы беларускай літаратурнай мовы. Апошнім часам пашыраецца ўзбагачэнне літаратурнай мовы за кошт інтэнсіўнай распрацоўкі дыялектна-фальклорных пластоў. Многія дыялектызмы — гэта ж, па сутнасці, старабеларуская лексіка, што набыла вуснае бытаванне, законсерваваўшыся, змянілася праз сваё прастамоўнае бытаванне, але і ў фальклорна-дыялектным пласце ўсё ж прасочваецца сувязь са старажытнай нацыянальнай пісьмовай традыцыяй. Такія тэндэнцыі знайшлі адлюстраванне ў перакладзе Анатоля Клышкі.

У чэрвені 1990 г. пад старшынствам Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі мітрапаліта Філарэта адбылося пасяджэнне Беларускай Біблейскай Камісіі, прысвечанае выданню новага перакладу Евангелля ад Матфея на сучасную беларускую мову ў выглядзе грэка-славянска-расійска-беларускай тэтраглоты. Зараз Біблейская Камісія працуе над Евангеллем ад Марка.

Такім чынам, беларуская біблеістычная школа мае багатыя традыцыі, якія бяруць свой пачатак з эпохі Сярэднявечча і плённа працягваюцца на сучасным этапе.

## Святы Язафат — прыклад для людзей нашых часоў

Манахі-студыты з полацкага кляштара святых Барыса і Глеба добра вядомыя сярод грэка-каталіцкіх вернікаў Беларусі сваёй актыўнай місіянерскай дзейнасцю. Некалькі гадоў таму з'явіўся ў Полацку першы грэка-каталіцкі святар айцец Бенэдыкт (Валерый Аляксійчук). Яго даслалі ў дапамогу беларускім братам духоўныя ўлады Львоўскай мітраполіі, бо ў Беларусі адчуваўся брак святароў, а тым часам паўставалі ўсё новыя парафіі. Малады святар прыбыў у Полацк — места былой уніяцкай біскупскай катэдры, слаўнае сваімі духоўнымі традыцыямі. Яму дапамагалі некалькі манахаў-братоў і актыўныя свецкія вернікі. Плён працы святара не прымусіў доўга чакаць. Да полацкай парафіі далучылася цэлая супольнасць катакомбнай праваслаўнай царквы, з'явілася шмат маладых людзей, якія актыўна ўключыліся ў царкоўнае служэнне. Па ініцыятыве манахаў ужо другі год праводзіцца пешая пілігрымка з Віцебска ў Полацк памяці пакутнікаў-святароў, забітых Пятром I у сценах Сафіі. Полацкія вернікі бяруць актыўны ўдзел ва ўсіх рэлігійных урачыстасцях, якія праводзіць Беларуская грэка-каталіцкая царква, асабліва ў рамках святкавання юбілею 400-годдзя Берасцейскай уніі. Сіламі манахаў створаны і дзейнічае царкоўны хор, які ўжо прыняў удзел у сёлетнім фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа". У траўні полацкая грэка-каталіцкая супольнасць прыняла яшчэ аднаго святара. Беларус Павел Кавалёў быў рукапаложаны пад імем ераманаха Пахома і накіраваны на духоўную працу ў Полацк і паўночна-ўсходні рэгіён Беларусі.

Гасцінны дом манахаў заўжды адчынены для гасцей. Вельмі часта прыязджае ў Полацк моладзь з іншых гарадоў Беларусі. Прыязджаючы, каб атрымаць духоўную падтрымку і параду, каб паўдзельнічаць у духоўных практыкаваннях, проста пацікавіцца жыццём манашай супольнасці. Не дзіўна, што пасля сустрэч і размоў са святарамі многія маладыя людзі адчуваюць у сабе святарскія і манаскія пакліканні і вырашаюць прысвяціць сябе духоўнаму служэнню. Значыць, зерне трапляе на добрую глебу,— гавораць святары.

Нядаўна полацкія грэка-каталікі ўрачыста адзначылі чарговую гадавіну пакутніцкай смерці святога Язафата, аднаго са сваіх духоўных патронаў і апекуноў. Восьмага лістапада была адпраўлена вячэрня ў кляштарнай капліцы. А дзевятага полацкія, менскія, гомельскія грэка-каталікі і госці з іншых гарадоў прыбылі ў Віцебск — горад, у якім ранкам 12 лістапада 1623 года і адбылося забойства святога пакутніка за веру і еднасць хрысціянаў. Пасля таго злачынства вялікі князь на некаторы час нават пазбавіў віцьблян магдэбургскага права. Месцічы адчувалі віну, якая плямай лягла на ўвесь горад, і ў хуткім часе большасць жыхароў прыняла унію.

Зараз іншыя часы, і грэка-каталікоў у Віцебску не шмат, сваёй святыні яны не маюць, таму карыстаюцца зычлівасцю мясцовай рыма-каталіцкай парафіі. У касцёле святой Барбары і адбылася ўрачыстая літургія. Са словам да грамады вернікаў звярнуўся ераманах Бенэдыкт. "Пакутніцкая смерць святога Язафата, яго ахвярнае жыццё і служэнне павінна стаць прыкладам для людзей нашых часоў. Мы павінны даваць сведчанне любові і моцнай перакананасці ў сваёй праваце, як гэта рабіў святы пакутнік", — гаварыў ён.

І сапраўды, вельмі важна ў сённяшні складаны час даць прыклад і надзею людзям. Пасля літургіі вернікі і духоўныя прыйшлі на бераг Дзвіны на месца забойства святога, дзе ўсталяваны памятны крыж. Там былі адпраўленыя малебны за еднасць хрысціян айца Леаніда Фёдарава, за Беларусь і беларускі народ. "За цвёрдасць веры, мужнасць у выпрабаваннях і вернасць свайму народу ўсіх нас Госпаду памолімся", — гучалі над дзвінскім берагам словы ўрачыстай малітвы.

На наступны дзень святкаванне працягнулася ў Полацку. У кляштарнай капліцы святога Язафата адбылося малітоўнае начное чуванне для моладзі. Госці з Менска, Гародні, Гомеля, Бярэсця разам з палачанамі распрацавалі насычаную рэлігійную праграму. Днём у новаасвечанай царкве святой Ефрасінні Полацкай была адслужана літургія, на якой, акрамя беларусаў, прысутнічалі госці з Украіны. А 30 лістапада полацкія вернікі збіраюцца выехаць у Бярэсце, дзе адбудзецца заключная ўрачыстасць юбілею Берасцейскай уніі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Суд у Расіі занепакоены рэкламай чараўнікоў у СМІ

Судовая палата па інфармацыйных спрэчках пры прэзідэнце Расіі выказала сваю занепакоенасць па прычыне засілля ў сродках масавай інфармацыі рэкламы чараўнікоў і празорцаў. Палата запатрабавала ад рэкламадаўцаў абавязкова прытрымлівацца заканадаўства і мець ліцэнзіі на распаўсюджванне рэкламы нетрадыцыйных метадаў лячэння.

Пад час спецыяльных слуханняў у Судовай Палаце эксперты падкрэслівалі, што апошнім часам у СМІ выразна павялічылася колькасць рэкламы паслуг розніга роду чараўнікоў, празорцаў і людзей, якія ўздзейнічаюць на масавую падсвядомасць.

Эксперты сцвярджаюць, што асабліва часта такую рэкламу змяшчаюць "Московская правда", "Вечерний клуб", "Экстра-М" і не патрабуюць пры гэтым у рэкламадаўцаў ліцэнзій. Дырэктар Навукова-практычнага інстытута псіхалогіі і псіхатэрапіі прафесар В.Лебедзеў у сваёй экспертызе адзначыў, што "з дапамогай моцнай радыёэлектральнай апаратуры і ідэалагічнай апрацоўкі чалавек уводзіцца ў стан зменянай свядомасці". Такім чынам паўстае эпідэмія масавага псіхозу, удзельнікам якога мроіцца масавыя аздараўленні, ім прадаюць "ажыўленыя" фатаграфіі, амулеты, газеты. Прафесар В.Лебедзеў гаворыць, што пасля кожнага такога сеанса лекары ў розных месцах адзначаюць рост псіхічных і фізічных захворванняў. Паводле слоў дырэктара Навуковага цэнтра анкалогіі прафесара Н.Трапезнікава, штогод паміраe 100 тысяч хворых, якія паверылі ў цудоўнае аздараўленне і позна звярнуліся па лекарскую дапамогу.

Прадстаўнікі Рускай Праваслаўнай Царквы і іншых расійскіх традыцыйных канфесій многа разоў выступалі супраць свабоднай і некантралюемай дзейнасці самазваных аздаравіцеляў, якая наносіць шкоду духоўнаму здароўю людзей.

**KAI.**

## Рым: хрост дзяцей "пакалення-68"

Амаль палова кандыдатаў да хросту — каля 150 чалавек у рымскай епархіі — гэта дзеці "пакалення 1968 года" — тых, хто ўдзельнічаў у маладзёжным бунце канца 60-х гадоў. Маладыя бунтары не ахрысцілі сваіх народжаных дзяцей, і цяпер яны самі пасля дасягнення паўнагоддзя вырашаюць свой лёс. Сярод іншых людзей, якія чакаюць хросту, большасць складаюць іншаземцы з пасольстваў, размешчаных у сталіцы Італіі, і розных міжнародных арганізацый.

**KAI/KNA.**
**Пераклаў А.Н.**

Рэха Рэха

## І не трэба звальняцца

Прачытаў пісьмо "Мяне "ўбралі" Міколы Сідарэвіча з вёскі Пасадзец ("НС", № 44). Нядаўна ў "НС" было такое ж пісьмо ад сп.Барболіна з Брэста. Чытаў я нядаўна, ужо не помню дзе, інтэрв'ю дэкана гістарычнага факультэта, як яго "убіралі". Дваістае ўражанне ад гэтых чытанак. З аднаго боку, прыемна, што ёсць беларуская інтэлігенты, з другога — абурэнне, што яны дазваляюць так лёгка сябе "убрать".

Беларускія інтэлігенты, уключаючы сюды халуёў і "шасцёрак", складаюць намнога меншы працэнт, чым інтэлігенцыя другіх нацыянальнасцяў на Беларусі. Адсюль і нашыя беды. Ды частку беларускай інтэлігенцыі цяжка назваць інтэлігенцыяй, г. зн. думаючай часткай народа. Такія розумныя былі не патрэбныя расійскаму імперыялізму. І гэта датычыцца асабліва педагогаў, аб якіх піша сп. Сідарэвіч. І іх не трэба чапаць, бо гэта ўсё роўна як даказваць псіхічнахвораму, што ён хворы. Трэба працаваць сярод тых, хто не безнадзейны, а тым даваць адпор.

І калі той жа Бенза В.М. сказаў, спадзеючыся, што яго заўважаць вышэйшыя: "Если мне доверят оружие, я тебя первым застрелю...", — то зрабіце законны крок — звярніцеся са скаргай у пракуратуру раёна, вобласці, рэспублікі. Жывём мы не ў 30-я гады, і гэта разумеюць многія, нават у пракуратуры. Бензе прыйдзецца даваць адказ, хоць які, і ён "падажме хвост".

І не трэба звальняцца — рабіце самі мінімум, нічога не рабіце, чакайце лепшага часу. Свядомых вельмі мала і на вашае месца прыйдзе прыблуда ці халуй.

Я раю не як старонні глядач. У 1990 годзе з маёй канторы не вылазілі сакратары гаркама, спрабуючы зрабіць уціск. Свайму начальству я намякнуў, што пасля звальнення я і мае дзеці будуць хацець есці.

Потым прыблуды выказвалі пажаданне "поставить к стенке" мяне, другія — "расстрелять за развал Союза", канешне, перабольшваючы мае заслугі. У 1994 годзе камуністы рашылі мяне нават пасадзіць. Узбудзілі справу — два гады думалі, як засудзіць на 2-5 год. Засудзілі к штрафу — але інфляцыя добра падтачыла гэты штраф.

І цяпер раблю, што магчыма. І трэба рабіць усім нам, як рабіла свядомая частка беларусаў апошнія 2 стагоддзі. А ім прыходзілася намнога цяжэй і небяспечней працаваць на Беларусь.

**Аркадзь БЛІНКОЎСКІ.**
г. Баранавічы.




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак Багушэвіч.*

Вучымся

# Стрыжань
## У гутарцы і размове

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

*(Заканчэнне.)*

Размоўнаму стылю ўласцівыя спецыфічная лексіка і адметны сінтаксічны лад.

Размоўная лексіка вызначаецца ацэначнасцю, якая, як правіла, выражаецца суфіксамі: **танюткі, чысцюсенькі, гушчэча, дачушка, дамок, хатка, дзіцятка, дзядзечка, цётачка, насішча, рачулка, пястушка**. Размоўны стыль уключае шмат найменняў — жартоўных ці крыўдных, неадабральных, іранічных. Яны дакладна і трапна характарызуюць асобу ці прадмет, разам з тым перадаючы эмоцыі, пачуцці, стаўленне аўтара да сітуацыі і нават рысы яго характару — па перавазе ў маўленні ласкавых, пяшчотных ці крыўдных, з'едлівых слоў. Напрыклад, у назоўніках агульнага роду **маруда, разявака, боўдзіла, недарэка** гучыць незадаволенасць, раздражнёнасць, слова **накольнік** эмацыйна перадае характар бойкага, рызыкоўнага, незалежнага хлапчука.

Размоўнаму стылю ўласціва адметная вобразнасць, якую вельмі прадуктыўна выкарыстоўвае і мастацкая літаратура — каб рэалістычна перадаць розныя будзённыя жыццёвыя сітуацыі. Пры ўжыванні слоў у пераносным значэнні часта выкарыстоўваюць ацэначныя суфіксы, напрыклад, пяшчотна звяртаючыся да дзіцяці: **сонейка, зорачка, кветачка, сэрцайка маё**. Вобразна-пераносныя найменні **гадзюка, воўк, доўбня** трапна, хоць і рэзка, а часам і груба, акрэсліваюць адмоўныя, непрывабныя рысы характару. Такая ацэначнасць праяўляецца і ў іншых часцінах мовы. Для прыкладу назавём дзеясловы **плесціся, паўзці, кандыбаць, цягнуцца, перціся**. Яны ярка і дакладна перадаюць асаблівасці руху, якія адсутнічаюць у значэнні нейтральнага дзеяслова **ісці** (ён можа ўжывацца ў любым з функцыянальных стыляў).

Арганічнай адзнакай размоўнага стылю з'яўляюцца фразеалагізмы, народжаныя вусным маўленнем, створаныя творчым духам народа. Яны ўвасабляюць народны вопыт ацэньваць і апісваць рэчаіснасць, з'яўляюцца сведчаннем напружанай інтэлектуальнай дзейнасці. Фразеалагізмы (у тым ліку прыказкі, прымаўкі) з'яўляюцца эмацыйнай слоўнай рэакцыяй на пэўныя жыццёвыя акалічнасці, нясуць у сабе ўласцівыя размоўнаму стылю адзнакі: **Лён любіць плён; Лянок не любіць лянот; Без паклону няма лёну; Брэша, як лён чэша; Калі — на лянок, калі — у танок**. Гэтыя прыклады даюць выразанае ўяўленне і пра сінтаксічныя асаблівасці функцыянальнага стылю.

Як адзначае ў "Стылістыцы беларускай мовы" А.К.Юрэвіч, "гутарковы стыль багаты на няпоўныя сказы, якія выступаюць як рэплікі дыялогу, словысказы, далучальныя, пабочныя, устаўныя канструкцыі, пытальныя, клічныя, інверсіўныя сказы. У гутарковым стылі рэдка ўжываюцца складаныя сказы з падпарадкавальнымі злучнікамі, шматступенным падпарадкаваннем даданых частак".

Вусная форма маўлення не заўсёды перадае размоўны стыль. Напрыклад, вусна чытаюць навуковы даклад (навуковы стыль), вусна даюць распараджэнні (афіцыйны стыль). Механічнае перанясенне ў размоўны стыль адзнак іншых (часцей афіцыйнага) стыляў з'яўляецца сур'ёзнай хібай. Пра гэта пісаў Рыгор Шкраба, цытуючы словы з прыватнай гаворкі, у якой на запрашэнне прыйсці ў рэдакцыю аўтар адказвае суха і вымушана: "Разумееце, мы маем з жонкай намер пайсці ў кіно. Ужо набылі білеты. Не ведаю, як паступіць. Пайду на кухню — абмяркуем з жонкаю гэта пытанне".

У такім маўленні адсутнічае галоўная асаблівасць стылю — эмацыйнасць, жывасць, творчы дух. Размоўны стыль дазваляе выявіць сваю індывідуальнасць у выбары сродкаў, арыгінальным іх выкарыстанні.

Практычная стылістыка

# Каб выказаць думкі

"Турсевіч добрасумленна адносіўся да сваёй працы ў школе і Лабановіч часценька прыязджаў да яго навучыцца, пераняць вопыт".

"Лабановіч прыехаў да Турсевіча, каб сустрэцца з сябрам, пагаманіць, адвесці душу, выказаць свае думкі і выслухаць яго парады і думкі."

У цытаваных радках сачыненняў, напісаных кніжнай мовай у апавядальнай, эмацыйна стрыманай манеры, парушаюць стылёвую гармонію словы, сітуацыйна звязаныя з размоўным стылем. У першым прыкладзе гэта прыслоўе з суфіксам суб'ектыўнай ацэнкі **часценька**. Найперш адзначым, што ў ТСБМ яно не ўключана, характэрнае больш расійскамоўнай традыцыі, хоць сустракаецца ў фальклоры. Беларускі адпаведнік мае іншую структуру — **часцяком**. Гэта слова надзвычай ужывальнае ў мастацкай літаратуры, нясе адценне падкрэслення, вылучэння абазначанай якасці ў неафіцыйным, прыватным выказванні. Пра гэта сведчаць цытаваныя ў слоўніку прыклады: **З таго дня, як у Лісаветы нарадзіўся маленькі Уладзік, я часцяком насіў ёй малако** (Б.Сачанка); **Часцяком здаралася, што пакой пуставаў, ніхто ў ім не жыў** (В.Карамазаў). Значыць, у нейтральным стылі да месца будуць менш эмацыйныя словы: **часта, даволі часта, не раз**.

Патрабуе ўдакладнення і слова **навучыцца**, бо яго значэнне рэалізуецца ў спалучэнні з інфінітывам, назоўнікам у давальным склоне ці даданым сказам: **навучыцца кравецкай справе; навучыцца плаваць; навучыцца вадзіць машыну; навучыцца, як пазбегнуць непрыемнасцей**. Таму ў значэнні 'навучыцца чаму-небудзь, набыць пэўныя веды і навыкі' трэба ўжыць слова **павучыцца**: Было чаму павучыцца ў такой акуратнай гаспадыні (А.Пальчэўскі). Шмат людзей прыходзіла паглядзець, як жывецца, як ідзе справа, а шмат хто прыходзіў і чаму-небудзь павучыцца (Міхась Чарот).

Варта замест дзеяслова **адносіцца** ўжыць адпаведнік **ставіцца**, значэнне яго больш выразнае, матываванае коранем. Прывядзём некаторыя магчымыя варыянты:

Турсевіч добрасумленна (сумленна) ставіўся да сваёй працы ў школе, таму Лабановіч часта прыязджаў павучыцца ў сябра, пераняць вопыт.

Турсевіч самаахвярна працаваў у школе, і Лабановіч не раз наведваў сябра (наведваўся да яго), каб павучыцца, пераняць вопыт.

У другім з цытаваных урыўкаў заўвагу выклікае слова **пагаманіць**, стылёва абмежаванае ТСБМ як размоўнае. Гэты дзеяслоў абазначае стыхійную, выпадковую размову, звычайна шумную, свабодную, а таму не прыдатны стылем і значэннем для апісання філасофскіх прадуманых дыялогаў пра складаныя праблемы нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, пытанні адукацыі ды станаўлення асобы. Сутнасць Лабановіча выразна характарызуюць іншыя, пастаўленыя ў аднародны рад, словы — адвесці душу, выказаць думкі.

Ускладняе ўспрыняцце, скажае змест даданы сказ **Каб сустрэцца з сябрам**. Гэтая шматслоўнасць не дае магчымасці высветліць, Турсевіч ці нейкая іншая асоба абазначаныя словам **сябар**. Акрамя таго, неабходна выправіць таўталогію — нематываваны паўтор слова **думка**,— напрыклад, ужыўшы сінонім **меркаванне**.

Выпраўлены сказ атрымаецца сціслым і дакладным:

Лабановіч прыехаў да Турсевіча, каб адвесці душу, пагаварыць з ім, даведацца яго думак, абмеркаваць набалелае.

Лабановіч прыехаў да свайго сябра Турсевіча, каб адвесці душу, падзяліцца думкамі, выслухаць яго парады і меркаванні.

Лабановіч прыехаў да свайго сябра адвесці душу, выказаць думкі, пачуць яго меркаванні і парады.

З гісторыі красамоўства на Беларусі

# Па справядлівасці

*На скразных шляхах, у даўняй даўнасці...*
**Аляксей Русецкі.**

Працягам перапіскі полацкіх і рыжскіх уладаў наконт вырашэння канфлікту купцоў Пятра і Панцялея, пра што была наша папярэдняя размова, з'яўляецца Грамата полацкага намесніка Няміра ратманам, якая датуецца межамі 1412—1422 гг., больш верагодна 1412—1413 гг. У ёй выказана просьба кампенсаваць палачаніну гандлёвыя страты, падставай чаму называюцца факты судовага расследавання, дадатковыя ўдакладненні ў паказаннях сведкаў, каб упэўніць дамоўны бок у справядлівасці сваіх патрабаванняў:

***От пана Немира, намѣсник(а) полоцкого приятелемъ нашим ратманомъ.***

***Што и перво писали есмо к вамъ про того Петра, ино и нине пытали есмо тыхъ людниковъ*** [сведак] ***Исака да Кузму, а ему тыи люди ни племя, ни хлѣбоеди. Они молвять такъ, што же ислубилъ тотъ Пантелѣи ему за добрыи селедьци. Онъ ему повѣрилъ.***

***Ино просимъ васъ, своих приятелей, што бы есте оучинили право*** [вырашылі справу] ***сему нашему полочанину Петру, што бы ему заплачено, абы правъ человекъ не гиблъ.***

Хоць грамата напісана ад імя іншага полацкага намесніка, у ёй паўтораны зварот ***приятели***, ужыты таксама і ў канцы тэксту, дзе выказана просьба. Гэтым перададзены спадзяванні, што прыязныя адносіны між уладамі паспрыяюць вырашэнню праблемы. У грамаце робяцца спасылкі на папярэднія перамовы (***Што и перво писали есмо к вамъ... про того Петра... тых людников***), падкрэсліваецца незацікаўленасць сведак судовым рашэннем. Апошняя інфармацыя вельмі сціслая і змястоўна ўвасобленая ў канструкцыю з аднароднымі членамі, дзе важную ролю адыгрываюць адмоўныя часціцы, паўтораныя пры кожнай з абвергнутых характарыстык: ***тыи люди ни племя, ни хлѣбоеди***. Адмаўленнем перададзеная юрыдычна важная інфармацыя пра адсутнасць паміж просьбітам і сведкамі сваяцкіх адносін ці матэрыяльнай залежнасці, што магло б паўплываць на іх паказанні.

Сваю настойлівасць полацкія ўлады тлумачаць гуманнымі мэтамі — узнавіць справядлівасць, каб ***правъ человекъ не гиблъ***,— узгадняючы юрыдычныя артыкулы з маральнымі крытэрыямі.

Стыль дакумента набліжаны да апавядальна-размоўнага, што праяўляецца і ў заключнай частцы, у якой перададзеная мяккая спагадлівая просьба, і ў паведамленні пра сведчанне Ісака ды Кузьмы, для якога абраная форма няўласна-простай мовы (гэта дазваляе меркаваць пра захаванне іх стылю выказвання).

Абмежавана ў грамаце ўжыты тэрміны — ***людники***, ***оучинить право***. Пераважае ў ёй стрыманая нейтральная інтанацыя. (Дакумент адлюстроўвае менавіта тыя эмоцыі, якія найбольш спрыяюць мірнаму ды ўзважанаму вырашэнню канфлікту.)

Такім чынам, у гэтым афіцыйным пасланні перададзеная зацікаўленасць лёсам чалавека, увага да яго клопатаў і праблем, жаданне ўзнавіць справядлівасць ды ўзмацніць закон.

Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"

*Валянціна ВЫХОТА,*
*кандыдат педагагічных навук*

# Коласавы зернеткі

Назіранні над мовай паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" прыводзяць да высновы, што моўныя паралелі пралягаюць не толькі паміж словамі, якія маюць агульную крыніцу паходжання, але і паміж іншымі лексемамі. Да такіх, перш за ўсё, належаць словы з аднолькавай унутранай формай ці матывіроўкай. Адна і тая ж прыкмета, якая ляжыць у аснове намінацыі, можа быць заўважаная носьбітамі розных моў. У наступных радках паэмы маем словы з агульнай матывіроўкай з адпаведнымі нямецкімі словамі:

*Дзе тая сіла, дзе моц тая,*
*.... (што)*
*Вядзе на вольныя дарогі*
*І свет прасторны* ***адчыняе***
*Бо ўсе дарогі загрузілі*
*І свет яму тут* ***зачынілі***.

Тут вылучаныя словы маюць пераноснае значэнне.

У словах **адчыніць** і **aufmachen** ды **зачыніць** і **zumachen** — матывіроўка аддэнтычная: *чыніць і machen*. Гэтыя два словы ў абедзвюх мовах ужываюцца таксама і ў пераносным значэнні:

*Што чалавек — звер чалавеку —*
*Так злосна* ***чыніць***, *неўспагадна!*

machen 5. 2) j-m Kummer machen причинять кому-л. горе; огорчать кого-л. (GDRW).

Хоць беларускую і нямецкую мовы збліжае індаеўрапейская моўная агульнасць, матывіроўка ў словах можа быць розная.

*І вось цяпер гаршчок з куццёю,*
*Як цар даўнейшаю парою*
*Ў пачэсны кут, на свой* ***прастол***
*Стаўляўся з гонарам за* ***стол***.

Індаеўрапейскі корань у словах *прастол, стол (стул)*, і *століь* — *stu, *stā, *st(h)ā 'стаяць'. Але слову *стол* адпавядае нямецкае Tisch m.

У аднаўленні ўнутранай формы слова дапамагае этымалогія. У аснове слова Tisch ляжыць грэц. diskos (ад *dik-skos ) 'дыск, якім бавяцца' (узыходзіць да dikeĩn 'кідаць'), якое праз лац. diskus 'міска' дало герм. diskuz. Ф.Клюге падае, што Tisch была маленькая драўляная днушка на **падстаўцы**. Днушка ставілася перад кожным да яды і служыла міскай для ежы.

Па Г.Паўлю слова Tisch было рана пазычана з грэц.-лац. diskus і першапачаткова азначала толькі Tischplatte 'стальніца', якую раней клалі на падстаўку непасрэдна перад ядой. Потым злучаныя, змацаваныя разам стальніца і падстаўка сталі звычайна называцца словам Tisch.

Падстаўка, станіна ням. Gestell n узыходзіць да *sthel 'стаяць' (пашырэнне і.-е. кораня *sthā 'стаяць').

Як бачым, выбар прыкметы, якая ляжыць у аснове намінацыі, можа быць зусім розны і нават выпадковы. Пры называнні рэчы 'стол' — прыкмета 'стаяць', а пры намінацыі таго ж самага прадмета Tisch — грэц. diskos 'пляскаты кружок', а тая частка стала, на якой ляжаў кружок, не стала прыкметай пры называнні агульнай рэчы беларусаў і немцаў — стала.

Слова *прастол* мае той самы і.-е. корань, што і *стол, стул*. Ням. Stuhl m пачаткова азначала прыстасаванне для сядзення, а таксама і тая частка будынка, на якім трымаецца дах — Dachstuhl m. Даўней Stuhl m было прымацаваным і нерухомым. Слова Stuhl m называлася сядзенне для гаспадара дому, бо астатнія сядзелі на лавах. Гэты сэнс захаваўся і ў слове *прастол* — Thron m 'трон'.

***Мікалай Крыўко — беларушчына.***
***Алена Шчука — англійшчына.***

# Слоўнік сінонімаў

**ПРАДАВАЦЬ** *каго-што* і зрэдку *без дапаўнення* (весці гандаль кім-, чым-н.) *Арлоўскі меў краму, прадаваў гарэлку, быў сядзельцам* (Чарнышэвіч). *Маці плацце людзям мыла і гароднае насенне прадавала* (Гарэцкі), **ГАНДЛЯВАЦЬ** *кім-чым* і зрэдку *без дап. Хоці праціснуўся скрозь шумны натоўп туды, адкуль чуўся птушыны гоман. І вось ён у кутку, дзе гандлююць птушкамі* (Арабей).

**Прадаваць**. У англійскай мове ў гэтым сэнсе ўжываюцца наступныя дзеясловы: **sell, deal, trade**. Дамінантай з'яўляецца **sell**. Два іншыя дзеясловы бліжэй да бел. гандляваць, пры гэтым апошні — **trade** можа мець дадатковы сэнс: гандляваць таварамі ў вялікім аб'ёме з замежнымі краінамі.

**ПРАДАЖНЫ** пагардлівае (такі, якога можна падкупіць) *Не! Не кароткая ў людзей памяць, каб так вітаць прадажны зброд!* (Маеўскі). **ПАДКУПНЫ** *Падкупное чыноўніцтва. Падкупная прэса.*

**Прадажны.** Усе тры англійскія сінонімы — **corrupt, mercenary, venal**, разам з дамінантай corrupt з'яўляюцца пазычаннямі. (Параўнайце назоўнік **карупцыя** ў беларушчыне).

**ПРАДАЎГАВАТЫ** (большы ўдаўжыню, чым ушырыню) *Свежыя, зялёныя, прадаўгаватыя — адзін у адзін — яны [агуркі] радавалі вока гаспадыні і госця* (Пальчэўскі), **ПАДОЎЖАНЫ** *Пачатак складаецца з цэнтральнага стрыжня, на якім размешчаны падоўжанымі радамі каласкі з дзвюма кветкамі* (Цішкоў), **ВЫЦЯГНУТЫ** *Гэта быў бландзін з выцягнутым тварам, у пенснэ і пілотцы* (Машара). *Кулеўрыны глядзелі жараламі ў нязмерны парк. На чашападобную лагчыну, на будыначкі маёнтка, на падкову возера, на дзве выцягнутыя званіцы раўбіцкай царквы, на далёкую шэрую пляму лазні ў гушчары* (Караткевіч).

**ПРАДАЎЖАЛЬНІК** (той, хто прадаўжае і развівае справы, ідэі, традыцыі свайго папярэдніка або сваіх папярэднікаў) *[Ф.Савіч] быў звязаны з вядомым польскім рэвалюцыянерам-дэмакратам С.Канарскім і групай рускіх афіцэраў — прадаўжальнікаў справы дзекабрыстаў, якая ўзначальвалася падпаручыкам А.Кузьміным-Караваевым* (Смірноў). *Працуюць Барыс Чубрык і Мікола Макей — былыя палітвязні, прадаўжальнікі нашай з табою справы ў давераснёўскім падполлі, у дні вайны — баявыя партызаны* (Брыль), **ПЕРАЕМНІК** (непасрэдны прадаўжальнік чыіх-н. спраў, ідэй і пад.) *[Васіль Вітка:] — Што можа быць удзячней, як перадаць набыты вопыт сваім пераемнікам* (Гардзіцкі). *Палітычная думка Скарыны, пераемніка антычна-дэмакратычнага ідэалу, не магла суіснаваць з уяўленнем аб тыраніі ў любым яе праяўленні* (Зайцаў), **НАШЧАДАК** прыўзнятае *Калі паэт хацеў дыскрэдытаваць прагульшчыка, ён рабіў гэта, параўноўваючы яго з дэзерцірам, "што на фронце вінтоўку" кінуў, і, наадварот, жадаючы ўславіць перадавіка, ударніка, ён паказвае яго як нашчадка, прадаўжальніка гераічных традыцый недалёкага мінулага* (Бярозкін), **НАСЛЕДНІК** прыўзн. *[Навум:] — Рыгор Піліпавіч забыўся, што мы наследнікі не толькі беларускай культуры, але і лепшага, што стварыла чалавецтва наогул* (Мікуліч). *Кожны пісьменнік — наследнік усяго лепшага, накопленага чалавецтвам* (Ярош), **НАСТУПНІК** прыўзн. *Наступнікаў грамадоўскага руху ўзначальвае Ігнат Дварчанін* (Машара). *Я касманаўтам пэўна ўжо не буду, Наўрад ці палячу калі да зор, Але куды ні гляну, ёсць усюды І у мяне наступнік і дублёр* (Грахоўскі), **СПАДКАЕМЕЦ** прыўзн. *Гэты пісьменнік з'яўляецца спадкаемцам лепшых традыцый нашай літаратуры. Змагаючыся супраць нацыяналізму, КПП абвяшчала сябе ідэйным спадкаемцам паўстанчай дэмакратыі* (У.Калеснік).

**Прадаўжальнік**. Гэты працяглы беларускі сінанімічны рад у англійшчыне ў якасці дамінанты мае назоўнік **successor**. Бел. **нашчадак** сваімі адпаведнікамі мае **descendant** і **off-spring**, а бел. **спадкаемцу** адпавядаюць **heir** і (як юрыдычны тэрмін) **legatee**. Усе адзінкі гэтага сінанімічнага рада ў англійшчыне, акрамя off-spring, былі пазычаныя з іншых моваў.



Пачатковая беларуская школа ў горадзе Клешчале Беластоцкага ваяводства ў Польшчы.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

*У старых фаліянтах*

# "Сухая рэпа"

Няма ў нас, мабыць, ніводнай вёскі, дзе б не было мянушак. Яны часта становяцца як бы другім імем — гэтыя трапныя слоўцы ці выразы. Памятаю, у нашым сяле жыў чалавек, які, вярнуўшыся з расійскага войска, пачаў казаць замест "пачакай" — "пагадзі". Так і памёр ён "Пагадзідлам". Але звычай такі не толькі ў мужыкоў існаваў. Распавядаў вядомы ашмянскі шляхцюк Антоні Эдвард Адзінец, паэт, перакладчык, мемуарыст, што калісь кожны вялікі пан меў сваю ўлюбёную прыказку, якой часта яго і называлі і з якой ён перайшоў у гісторыю. Варта, прыкладам, сказаць Радзівіл "Пане Каханку", каб было зразумела, што гаворка пра Караля Станіслава Радзівіла, ардыната нясвіжскага, ваяводу віленскага. А ягоны бацька Міхал Казімір вядомы як "Рыбанька", бо, відаць, любіў паўтараць гэтае ласкавае беларускае слоўца. Вядомы мемуарыст Ян Хрызастом Пасек у сваіх успамінах XVII стагоддзя часта паўтарае "па-старому", як, мабыць, і казаў у бяседзе.

Падобныя прыказкі, любімыя слоўцы цягам часу прыгладжваліся, скарачаліся ды станавіліся ўстойлівымі выразамі. Так, з "міласцівага пана" ўзнікла слоўца "мосьціпан" або нават "моспан" ці "мопан", з "вашай мілосьці" ўтварыліся "вашмосьць", "вашэць" ("Што пан сказаць, вашэці, мае") ды нават "васьць" ці "асьць". Усім вядомае "ягамосць" паходзіць ад "яго мілосці", а "вацьпан" ці "аспан" — ад "ваша міласць пан".

Надараліся і такія выслоўі, што людзей, якія іх ужывалі, выстаўлялі на пасмешышча. Распавядаюць пра падляшскага шляхціча Ануфрыя Луцкевіча, які меў за прымаўку словы "сухая рэпа". Ён вельмі любіў заляцацца да дзяўчат. Пасля ўклонаў і знаёмства, падкруціўшы вусы, пачынаў сыпаць кампліменты ўпадабанай дзяўчыне. І ніяк не мог уцяміць, чаму кожная паненка, як толькі пачынаў гаварыць пра яе прыгажосць, спачатку чырванела, пасля ўсміхалася ды, нарэшце, не вытрымаўшы, рагатала з "сухой рэпы" і ўцякала.

**Вычытаў З.С.**

*За добрым сталом кажучы*

# Беларускія тосты

✧ Каб было ў вас столькі сынкоў, колькі ў лесе пянькоў!

✧ Колькі ў хаце вугалочкаў, каб столькі было сыночкаў!

✧ Каб жылі багата, як восень, каб былі красны, як вясна, а дужы, як вада, каб разам усё жыццё ішлі, шчасце-долю сабе знайшлі!

✧ Каб ты быў крэпак, як вада, багаты, як зямля, руплівы, як пчала, і красен, як вясна!

✧ Каб былі маладыя здаровыя, як вада, багатыя, як зямля, вясёлыя, як салавейка, лёгкія, як верабейка!

✧ Каб былі здаровыя, як зіма, прыгожыя, як вясна, рабочыя, як лета, багатыя, як восень!

✧ Каб у вашым дамочку, у вашым хлявочку, у вашым садочку ўсё радзіла і пладзіла!

✧ Каб ваш ложак рыпаў, рыпаў, а праз год сыночак выпаў, а праз два гадочкі выпала каб дочка!

✧ Каб любіліся, як галубкі ў гняздзечку!

✧ Каб быў у вас заўсёды лад, жывіце шчасліва, багата, каб пракурор і адвакат міналі вашу хату!

✧ Каб нявеста была багата і спераду гарбата!

✧ Каб у вашай маладой хаце сала кубламі вялося!

✧ Хай сямейнае шчасце адзавецца рэхам — дзіцячым смехам!

✧ Хай расцвітаюць у лугах званочкі для вашай прыгажуні-дочкі!

✧ Хай не пагасне ніколі жыцця вашага зорка, хай будзе соладка заўсёды, ну, а сёння — горка!

✧ Бласлаўляем вас жытам, бытам, доўгім векам, добрым здароўем, каб шчасліва пажывалі, нас не забывалі, адно аднаго шанавалі!

✧ Помні запаветку: любі жонку — не забывай суседку!

**Мікола ДАНІЛОВІЧ, кандыдат філалагічных навук.**

*(Працяг будзе.)*

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*



Арганічнае спалучэнне біблійных вобразаў з глыбока індывідуальнай сімволікай уласцівае лірыцы вядомай нямецкай паэтэсы Нэлі Закс (1892—1970).

**Нэлі Закс**

* * *

Але пад лістотнай страхой  
суцэльнага асаматнення  
якое ўмірае адно для цябе  
дзе кожны позірк чужы канае  
адкідваючы ўсе спатканні  
любоўныя таксама

ты  
выглядваючы чатырма  
ветравымі тварамі ў чужыну  
цар над працягамі недатыкальнасці  
адназначны як скіўіцы мерцвяка  
што засталіся ў распадзе праху  
а ўзнёклі былі адно каб жаваць  
у яго імперыі  
якая загінула.

* * *

Хто кліча?  
Гэта — свой голас!  
А хто адказвае?  
Скон!

Дык што, сяброўства гіне  
Ў вайсковым лагеры сну?  
Гіне!  
А певень чаму не пяе?  
Ён чакае, пакуль  
На вадзе ўсплыве  
Размарынавы пацалунак.

Што ж гэта такое?

Імкненне адзіноты,  
З якога выпаў Час,

Адвечнасцю забіты!

Што ж гэта такое?

Сон і Скон — бяз'існыя.

* * *

Гэта вандроўка на месца  
дзе цені падпісваюць дамовы іншыя...  
Ты сядзіш адвярнуўшыся ад мяне  
твая спіна працінае ноч  
ты гаворыш бязгучна з суразмоўцам  
што насупраць...  
Прароцтвы — бляклыя бліскавіцы  
на попельна-шэрай сцяне.

Сярод зелені шмат паміраюць  
у магілах вы — пясчыстая блізкасць...

**Пераклад з нямецкай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

*(Ганарар — у фонд рэдакцыі).*

# І смех і грэх

*Пачутае "У Лявона"*

**ЗАКАХАНАЯ**

Бывальцы шынка хваляцца, як іх любяць жонкі. Адзін дый кажа:

— А мая Ліда ўсё яшчэ закаханая.

— У каго? У цябе? — падкепвае яго сябра.

— Чаму ў мяне? У самую сябе!

**ІДЭАЛ — НЕ ІДЭАЛ**

— Я не пайду за яго: гэта не мой ідэал мужчыны.

— Не будзь такой упартай! Усё ж роўна ідэалы знікаюць пасля мядовага месяца.

**МОЎЧКІ**

— І часта ты не пагаджаешся з жонкай?

— Так, але я ёй гэтага не гавару.

**АБ'ЕКТЫЎНАСЦЬ**

Дзве госці шынка пляткараць пра Лёлю:

— Яна такая заслепленая, што не бачыць недахопаў у сваіх дзяцей.

— Але якая маці іх заўважае?

— А я, напэўна б, убачыла, каб мая дачка мела хоць адзін.

**АДКАЗ**

У шынок заходзіць пагрэцца маладзён з вялікай кіпай газет.

— Намучыўся ў цемры з гэтымі газетамі,— спачувае яму бывалец.

— А што мне — я іх не чытаю.

**УМОВА**

Маладзён прызнаецца дзяўчыне ў каханні. Тая і пытае яго:

— А ці пойдзеш ты за мною на край свету?

— Канешне,— адказвае хлопец,— але я мушу паспець на апошні тралейбус.

**НЕСПАДЗЯВАНКА**

Бывалец шынка скардзіцца свайму сябру.

— Жанчынам, на жаль, нельга верыць.

— Чаму?

— Нядаўна падаў у газету матрыманіяльную абвестку і першай жанчынай, хто адклікнуўся, была мая нявеста.

**Учуў З.С.**

*Пародыі*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

## Не сні мяне, Марыя...

*Я стары, Марыя,*  
*Мне даўно за трыццаць.*  
*Хай табе, дзяўчыне,*  
*Малады прысніцца.*

**Леў Мароз.**

Ты не сні мяне, Марыя,—  
Хай лепш іншы хто прысніцца.  
Для цябе ж зусім стары я,  
Як-ніяк, а ўжо за трыццаць.

Не глядзі вачыма прагна  
І не думай заляцацца.  
Да дзяўчат мяне не цягне,  
Як было, цягнула ў дваццаць.

З імі звеў я ўсе рахункі  
І па іх даўно не млею.  
Мне абрыдлі пацалункі,  
І астатняе — не меней.

Ўжо даўно, як стаў нічый я  
І штодня сачу за гэтым.  
Ты не сні мяне, Марыя,  
Не трывож дарма мяне ты.

Не пытай, у чым прычына,  
Бо у тым няма сакрэту:  
Быў бы я ого-мужчына —  
Толькі стаў, на жаль, паэтам.

*Валерый ШЫХАНЦОЎ*

## Слушная думка

*Той агонь, што даў мне*  
*прашчур,*  
*Для цябе я берагу.*  
*Я з табой — цябе я лашчу,*  
*Быць халодным не магу...*  
* * *  
*У майго кахання —*  
*Многа шчыравання...*  
* * *  
*Ля цябе я адчуваю*  
*Маладым сябе і юным...*

**Васіль Жуковіч.**

Не зважаю на гады,  
Даў мне сілы, пэўна, прашчур.  
Апантана-малады,  
Дзень за днём цябе я лашчу.

Так шчырую, што ажно  
Сам з сябе ужо дзіўлюся.  
Не вадой быць, а віном  
Для цябе ізноў імкнуся.

Ну а тым, хто не такі,  
Я ад сэрца спачуваю,  
Бо з любві ідуць радкі —  
Гэта я дакладна знаю.

І чым болей я люблю,  
Кніжкі тым часцей выходзяць.  
Ды на думцы зноў лаўлю  
Я сябе: "Васіль! Мо годзе?"

*Афарызмы*

*Мілан БАШЫЧ*

◆ Гэта праўда, што на памылках вучымся, ды ці з-за гэтага павінны так часта памыляцца?

◆ Ён ляцеў на поўных парах і з часам выпарыўся.

◆ Выкапаў другому яму, ды ніколі не патрабаваў аплаты.

◆ Пішам так, як гаворым, а вось робім заўжды так, як дамовімся.

◆ Палка выступаў ён наконт гарачых праблемаў з намерам пагрэць рукі.

◆ Скардзіўся на нейкія органы, хоць усе ягоныя органы былі ў парадку.

◆ Сродкі вытворчасці ўсё мадэрнізуюцца, і гэта прычына, што многія даўно забыліся пра серп і молат.

◆ Нашто дзе-каму працаваць на лепшае заўтра, калі і сёння ўжо добра.

◆ Хто хоча парадзіцца, няхай стане членам якой-небудзь рады.

◆ У змаганні інфляцыі з узроўнем жыцця пераможаны ўзровень.

◆ Шукаў сябра ў бядзе, а знайшоў у карчме.

**Пераклаў з сербскай мовы Іван Чарота.**

# Даты і падзеі ў снежні

**1** — 140 гадоў таму быў адкрыты для наведвання Віленскі музей старажытнасцяў, заснаваны 29 красавіка 1855 года Яўстахам Тышкевічам: у Вільню былі перавезены з Лагойска зборы братоў Тышкевічаў.

— 70 гадоў таму Браніслаў Тарашкевіч нелегальна выехаў у Маскву дзеля абмеркавання з кіраўніцтвам Камінтэрна дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай грамады ва ўмовах дэлегалізацыі.

— 65 гадоў таму славуты і папулярны заходнебеларускі паэт Міхась Васілёк скардзіўся ў лісце да рэдакцыі часопіса "Маланка", што ягоныя вершы не могуць быць надрукаваныя праз цэнзуру.

**2** — 410 гадоў таму Саламон Рысінскі, вядомы беларускі паэт-лацініст і складальнік зборніка беларускіх прыказак (1800 прыказак; надрукаваны ў Любчы, цяпер Навагрудскі р-н), паступіў у Альтдорфскі універсітэт (Германія), у імматрыкулярных актах ён быў запісаны: "Solomo Pantherus Leucorussus" (Саламон Пантэрус беларус).

— 335 гадоў таму ў вайне Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай за Беларусь і Украіну, пасля паражэння расійскага войска каля в.Кушлікі была вызваленая сталіца ВКЛ Вільня.

— 170 гадоў таму ў Віцебску абшарнікамі Віцебскай і Магілёўскай губерняў было заснавана Беларускае вольнае эканамічнае таварыства, мэтай якога было выкарыстанне дасягненняў сельскай гаспадаркі ва ўмовах Беларусі.

— 110 гадоў з дня нараджэння Мікалая Равенскага, выкладчыка Беларускай кансерваторыі, аўтара першай беларускай оперы "Браніслава" (лібрэта Ул.Дубоўкі), аўтара песень на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло. З 1944 года жыў у Нямеччыне.

— 90 гадоў таму беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша аконца" абвясціла праз газету "Наша Ніва" выданне падпіснoй серыі "Беларускія песняры" ў 8 тамах.

**3** — 400 гадоў з дня нараджэння Нікала Амаці, італьянскага скрыпкавага майстра.

— 205 гадоў з дня нараджэння ў сям'і уніяцкага святара мястэчка Бялавічы Слонімскага павета Міхала Гамаліцкага, прафесара, загадчыка кафедры фізіялогіі (1819—1827) медыцынскага факультэта Віленскага універсітэта (займаўся пераліваннем крыві), гісторыка, літаратара.

— 130 гадоў таму адбылося гадавое пасяджэнне Магілёўскага таварыства ўрачоў (заснаванае 18-цю лекарамі ў 1862 годзе як шостае ў Расійскай імперыі). Ягоны першы прэзідэнт, інспектар лекарскай управы Я.Я.Грабоўскі ў справаздачы згадаў, што адбылося 10 пасяджэнняў за год.

**4** — 85 гадоў з дня нараджэння мастака І.Давідовіча.

— 60 гадоў таму ўладамі Польскай Рэчы Паспалітай быў забаронены Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (створаны ў чэрвені 1926 г. у Вільні) — культурна-асветніцкая арганізацыя Заходняй Беларусі.

**5** — 85 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Рыбальчанкі, балетмайстра і кіраўніка Гомельскага народнага ансамбля песні і танца.

— 60 гадоў з дня нараджэння мастака У.Мурахвера, майстра дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Падрыхтаваў З.С.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.
Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Анісковіч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 1297

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2705 паасобнікі.
Падпісана ў друк 27.11.1996 г. у 15 гадзін.